ПРАЛЕТАРЫІ УСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Год выдання 39-ы
№ 34 (2496)
ПЯТНІЦА
22
мая 1970 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ.

Цана 8 кап.



**Савецкая дэмакратыя. Сутнасць яе яшчэ і яшчэ раз яскрава выяўляецца ў дні падрыхтоўкі да выбараў у Вярхоўны Савет СССР.**

**Сваіх лепшых сыноў і дачок, тых, хто самаадданай працай, актыўнай грамадскай дзейнасцю заваяваў павагу і высокі давер, вылучае савецкі народ у вярхоўны орган улады.**

**Пачаўся заключны этап выбарчай кампаніі — да знамянальнага дня выбараў, 14 чэрвеня, засталося трошкі больш за тры тыдні.**

**На здымку нашага фотакарэспандэнта Ул. Крука — чарговае пасяджэнне Выбарчай камісіі Беларускай ССР па выбарах у Савет Нацыянальнасцей Вярхоўнага Савета СССР. Гэтую камісію ўзначальвае вядомы беларускі пісьменнік Іван Шамякін.**

Рэпартаж з пасяджэння камісіі чытайце на 2-й старонцы.

# БРАЦІСЛАВА-МІНСК—ДАРОГА ДРУЖБЫ

*НЕКАЛЬКІ дзён гасцямі беларускіх пісьменнікаў былі літаратары з братняй Славакіі: лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, празаік Ёзаф Горак, паэт Уладзімір Райсел, празаік Ян Коранка і літаратуразнаўца Віктар Кохаль. 18 мая ў Саюзе пісьменнікаў БССР адбылася цёплая, сардэчная гутарка з гасцямі, у якой прынялі ўдзел М. Танк, І. Шамякін, Я. Брыль, М. Ткачоў, А. Кулакоўскі, З. Азгур, А. Вярцінскі, А. Зарыцкі. Я. Семяжон, Я. Сіпакоў, Я. Скрыган, Т. Хадкевіч і інш.*

*Славацкія пісьменнікі, якія ўпершыню наведалі Беларусь, азнаёміліся з выдатнасцямі Мінска, пабывалі ў музеі першага з'езда РСДРП, у музеях Я. Купалы і Я. Коласа, наведалі Хатынь і Курган славы, зрабілі паездку на радзіму Якуба Коласа.*

*Прапануем увазе чытачоў творы нашых гасцей.*



**Славацкія пісьменнікі Ян Коранка, Ёзаф Горак, Віктар Кохаль, Уладзімір Райсел і галоўны рэдактар часопіса «Гарызонты сацыялізма», госць Усесаюзнага кінафестывалю Мілаш Крно знаёмяцца з Мінскам.**

## Міколка

**Ёзаф ГОРАК**

ГЭТА БЫЛО на прадвесні 1945 года.

Вы і самі ведаеце, што мы тады перажывалі. Была вайна. Не адзін з нас яе памятае, не адзін з нас нямала пабачыў і адчуў. У пачатку сакавіка фронт наблізіўся да нас. Быў ранак, сакавіцкі, але яшчэ халодны. Ды ў тую раніцу раптам ўсё змоўкла. Калі я выйшаў са сховішча, дык убачыў, што ў вёсцы было многа вайсковых. Гэта былі ўжо не фашысты, а чырвонаармейцы. Яны стаялі чародкамі на дварэ, на вуліцы, поўна было іх у школе. Яна была малая і не магла ўсіх прыгрэць. Вокны былі павыбіваны кулямі і асколкамі, адзін вугал разбіты выбухам снарада, дах — паламаны. Салдаты то ўваходзілі ў школу, то выходзілі з яе. Куды ні зірнеш — скрозь тэлефонныя шнуры. Па салдатах відно было, што ім чагосьці не хапае. Яны чакалі камандзіра.

І вось ён прыйшоў.

Высокі, парывісты, малады. Цераз плячо быў перакінуты непрамакальны плашч.

Камандзір падаў мне руку.

— Ты дырэктар? — спытаўся.

Я кіўнуў галавою.

— Пайшлі са мною, — паклікаў ён мяне.

Мы селі. Праз пабітыя вокны дзьмуў халодны вецер. Капітан быў стомлены. Вочы яго раз-пораз плюшчыліся. Ды заснуць ён не мог. Уваходзілі то паставыя, то пасыльныя, то сувязісты, і мілы капітан, які хацеў са мной пра штосьці пагаварыць, не меў на гэта магчымасці. Быстра, аднак стомленым голасам, ён сказаў:

— Я не спаў, калі праўду сказаць, пяць сутак. Так толькі прыхваткам, стоячы дзе-небудзь, дрэмлеш.

— Галоўнае, што вы ўжо тут, — сказаў я. Падумалася, што цяпер капітан мог бы і скінуць сон. Твар камандзіра быў збялелы, вочы паўпадалі, валасы пазліпаліся ад поту... Стома, стома... Аднак, калі зноў увайшоў салдат, капітан ажыў. У вачах бліснуў агеньчык, голас узмацнеў, на твары з'явілася чырвань.

На маю прапанову паспаць ён махнуў рукою.

— Яшчэ не па ўсім, — сказаў і ўсміхнуўся.

Я трохі здзівіўся. Пасля некалькіх дзён страляніны прыйшла, нарэшце, цішыня. Падумалася, што цяпер дык ужо ўсё супакоіцца, што вайне—канец. А капітан вось кажа, што яшчэ не па ўсім.

— Хутка пачнецца зноў, — сказаў ён мне з усмешкай. — Немцы акапаліся на ўзгорку.

Я збялеў. І капітан заўважыў гэта. І зноў усміхнуўся.

— Баішся? — спытаўся ён у мяне.

Я і не згадзіўся, і не запярэчыў.

— Што ж, вайна — гэта зло, — сказаў ён, махнуўшы рукою. Тады выпіў шкляначку гарэлкі і наліў мне.

У школе было поўна салдат. У суседнім класе відаць былі маладыя афіцэры і сяржанты.

Раптам пачаўся незвычайны рух, ажыўленне. Спачатку загучаў незнаёмы, моцны голас, а потым смех. Хтосьці прыйшоў і голасна пра штосьці гаварыў. Я не разумеў, пра што, але, відаць, было гэта нешта вясёлае.

— Міколка! — гукнуў капітан.

Дзверы адчыніліся і ўвайшоў... Я падумаў, што ўвойдзе які-небудзь юнак, а гэта быў высокі, мажны мужчына, ужо добра-такі немаладзён. Сівы, з густою, белай барадой. У вушанцы з чырвонаю зоркай. На грудзях вісеў аўтамат, за плячыма — рэчавы мяшок.

— Ну, дзеду, як там? — весела сустрэў яго капітан.

— Што ж, я ўжо тым часам тут, — адказаў стары, бліснуўшы са свае сівізны зубамі.—І жывы, таварыш капітан.

Стары Міколка. Ён быў як бацька сярод дзяцей, як настаўнік сярод вучняў.

— І ты страляў? — спытаўся капітан, зусім ачуняўшы ад стомы.

— Страляў, — горда адказаў стары.

— А ці застрэліў каторага?

— Страляў. А ці застрэліў — не ведаю.

Я здзівіўся, што ў Савецкай Арміі ваююць і такія дзяды.

— Ты хто — дырэктар? — спытаўся ён, павярнуўшыся да мяне.

— Дырэктар, — усміхнуўся капітан.

Міколка падаў мне руку. Я яе моцна пацісзуў.

— Не бойся, — сказаў стары. — Усё будзе добра. Вайна скончыцца, адрамантуеш школу і зноў будзеш вучыць малых. Я вельмі люблю іх. А ўсе вось гэтыя—нібыта дзеці мае...

Ён паказаў рукою на маладых афіцэраў, якія стаялі ў дзвярах.

Яны падышлі да старога і паказалі яму пераклады кніг рускіх пісьменнікаў — Пушкіна, Дастаеўскага, Шолахава, Эрэнбурга, Караленкі... Яны заўважылі гэтыя кнігі ў маёй бібліятэцы. Дзед браў іх адну за адной у рукі і ўважліва прыглядаўся. Ён не ведаў лацініцы, але маладыя ахвотна называлі яму імёны аўтараў.

Ды тут пачуліся выбухі. Убегла некалькі салдат. Крыкам паведамлялі штосьці капітану. А нямецкія міны рваліся ўжо вельмі густа.

— Пайшлі, хлопцы! — гукнуў капітан і ўстаў. Высокі, стройны, ён пацягнуўся да хрусту ў касцях, уздыхнуў, надзеў каску.

Падаў мне руку.

Пайшоў, але ў дзвярах азірнуўся.

— Фрыцы пачынаюць атакаваць. Але не бойся, яны сюды не вернуцца.

І выйшаў.

Стары Міколка першы пайшоў за капітанам. Ён таксама падаў мне руку і зноў паўтарыў тое, што раней сказаў пра школу і дзяцей.

За вёскаю пачаўся бой.

Прамінула тры дні.

Тры дні, на працягу якіх мы не ведалі, што да чаго. Зямля гула, скрозь поўна дыму, снег, пачарнелы ад выбухаў мін, увачавідкі раставаў, вада сплывала з салдацкай крывёю.

На цвінтары капалі ўсё новыя і новыя магілы. Для загінуўшых. Капалі сяляне.

На трэці дзень паклікалі і мяне. Я пайшоў. Сяляне спраўна завіхаліся на гэтай горкай працы. Рыдлёўкі дзяўблі мёрзлую зямлю. Паблізу ляжала дзевяць мерцвякоў, накрытых шынялямі. Чырвонаармейцы. Сэрца маё балюча сціснулася. Я адвярнуўся, пачаў шукаць лом і рыдлёўку...

Але тут падышоў малады старшына. Ён быў паранены, з правай рукой на перавязі.

— Ты хто? — спытаўся ён у мяне, бо я адрозніваўся выглядам ад сваіх аднавяскоўцаў.

— Настаўнік, — адказалі за мяне сяляне.

— Настаўнік? — прыязна ўсміхнуўся старшына. — Табе не трэба рыдлёўка. Ты будзеш вучыць дзяцей, — дадаў ён, працягнуўшы мне здаровую руку.

Мы пакінулі сялян і іх сумную працу. Рыдлёўкі бязладна, балюча стукаліся аб каменне. Мы падышлі са старшыной да мерцвякоў. З-пад некаторых яшчэ выцякалі ручаінкі цёмнай крыві. Хвіліну мы стаялі моўчкі. Не ведаю, чаму я раптам нагнуўся і пацягнуў шынель з мерцвяка, каля якога стаяў.

— Можна? — спытаўся я ў старшыны.

Ён моўчкі кіўнуў галавою.

Я адкрыў твар нябожчыка.

Гэта быў стары Міколка...

Той самы, што тры дні таму назад весела гаварыў пра тое, як я адрамантую школу і буду вучыць дзяцей.

— Дзядуля Міколка, — шапнуў я.

Не відно было, дзе яго смяротная рана, а на твары засталася тая ж непаўторная ўсмешка — як і тады, калі мы з ім гаварылі.

Хвіліну я пастаяў над старым, зняўшы шапку. Пасля зноў прыкрыў яго шынялём. Адышоўся памалу.

— Ты ведаў яго? — спытаўся старшына.

Я кіўнуў галавой. Я не мог гаварыць. Незнаёмы боль схапіў мяне за сэрца...

Пасля мы і сапраўды давялі нашу школу да ладу. Адрамантавалі парты і сталы, зашклілі вокны. Я зноў пачаў вучыць малых. Так, як прадбачыў дзед Міколка...

Калі б я ўмеў, дык намаляваў бы яго партрэт і павесіў бы ў класе на сцяне.

І калі б я расказаў сваім вучням гэтую сумную, праўдзівую гісторыю, дык палажыў бы хоць адзін букецік пад гэтым партрэтам. Пад партрэтам дзядулі Міколкі...

**Пераклад Т. Міронавай і Я. Брыля.**

**Уладзімір РАЙСЕЛ**

### ЛЕТА

**Божа, колькі лета**
**у маім целе!**
**Колькі спёкі у маёй крыві!**
**Не хачу ні цішыні, ні ценю,**
**толькі аднаго хачу — любві.**
**Ды чаму, як зменіцца пагода,**
**смутак скоўвае мой кожны рух!**
**Ці ў любві ёсць**
**свае поры года,**
**той жа ўсё зачараваны круг!**

### ЛЮСТРА

**Яно гаварыла заўсёды**
**праўду і толькі праўду,**
**не баючыся нанесці**
**праўдай каму-небудзь траўму.**
**Калі ж яго не ўзлюбілі,**
**калі яго разбілі,**
**тую горкую праўду**
**стократ асколкі адбілі.**

### СЭРЦА

**— Якая хворасць, якое зло**
**у сэрцы чалавека!**
**— Яны гнездзяцца ў ім даўно,**
**яны у сэрцы адвеку.**
**— Не, памыляешся, дарагі:**
**будзь сэрца такім адвечна,**
**быў бы зусім чалавек другім,**
**не марыў бы жыць чалавечна.**

Пераклаў са славацкай мовы
Анатоль ВЯРЦІНСКІ.

А ДВЯЧОРАК. Пачарнелы снег, як стары грыб, абсунуўся, асеў і ляжыць каля платоў грузны, гатовы распаўзціся ў розныя бакі. Ліпы і вербы мокрыя, галаstволыя. Ад гэтага яны здаюцца на фоне сіняга неба яшчэ больш чорнымі, ледзь не грыфельнымі. Прыслухаешся: здаецца, пахне адталай карой, нават мокрымі штыкецінамі, паўз якія мы ідзем.

— Зараз во спусцімся ў лагчынку, там і хата, — гукае мне калгасны пчаляр, малады яшчэ хлопец Валодзя Язерскі.

Перад гэтым мы сядзелі з ім у парткоме (Валодзя замяшчае сакратара), і ён расказваў, што з былых вясковых камунараў жывымі засталіся лічаныя людзі. Каго кулацкі абрэз падпільнаваў, хто ў вайну загінуў, а каго франтавыя раны пасля вайны ў магілу звялі. Адна надзея на Андрэя Васільевіча Прыцава. Больш няма ўжо каму расказаць пра камуну.

Прайшлі трохі моўчкі. Потым Валодзя зноў паварочваецца да мяне:

— Харошы Прыцаў чалавек. Я ў яго кватараваў нешта каля чатырох год. Ён і цяпер мяне лічыць за роднага сына. Бывае, іншы раз прыйду, а дома нікога няма. Я сам вазьму ключ... Ён заўсёды ў вушаку ляжыць... Адамкну замок, вазьму, што трэба ў хаце і пайду... Ну, во датэпалі!..

Ляпае клямка, сіпла рыпяць набухлыя вільгаццю вароты, нехаця прапускаючы нас у двор. Я азіраюся. Па правую руку—вастраверхі тын. За ім — агарод, а крышку далей ледзь прабіваецца ў цемрадзі сілуэт хлевушка. Мы ніштавата доўга стаім у сенечках. Валодзя ляпае рукой па дзвярах, ніяк не можа намацаць клямку. Нарэшце бразгае жалеза, у твар і грудзі шугае цёплы хатні дух.

На ўслончыку спіной да дзвярэй сядзіць чалавек, нешта робіць. Здаецца, скубе з курыцы пер'е.

— Дзень добры ў хату, — гукае Валодзя. Ён паціскае прысадзістаму каржакаватаму гаспадару руку, тлумачыць, па якой справе прыйшлі да яго.

— Я хуценька, — абтрасае той з каленяў пер'е і пух. — Гэта во жонка кажа, — абскубі. Можа, калі падушку наб'е.

Андрэй Васільевіч шчоўкае ўключальнікам і жмурыцца ад святла. Твар у яго поўны, позірк вясёлы, праніклівы. Галава круглая, як гарбуз. На ёй, нібы марозная заінелаяігліца, тапырацца ва ўсе бакі кароткія сівыя валасы. Дзіўна, як іх бярэ толькі машынка ці нажніцы — такімі пруткімі і тоўстымі яны здаюцца.

— Ідзіце сюды, — вядзе гаспадар у чыстую палавіну хаты, падсоўвае крэсла. Сядае і сам. — Дык вы пра камуну?.. Многа ж вады сплыло і з памяці шмат што выветрылася, — бядуе Прыцаў.

— А няўжо ж! — узяўшы ў руку вядро і збіраючыся выйсці з хаты, пацвярджае ад парога гаспадыня Ефрасіння Рыгораўна. —Столькі ўсяго было! І калатнечы, і... Не прывядзі госпадзі. Як чалавек, здаецца, і можа выцерпець...

— Ат, зноў ты за сваё, — перабівае гаспадар. Пачакаў, пакуль зачыніліся дзверы, цяжка палажыў на стол рукі. — Напакутвалася яна ў мяне за вайну. І ў Рагачоўскай турме сядзела, і канцлагера паспытала. Чуць выбавілі сваякі ад смерці. Пра што не пачне цяпер гаварыць, усё да вайны зводзіць... Хапіла і мне. І кулямі і асколкамі хрышчоны. Немец па мне прамой наводкай з гарматы лупіў. Ды трасцу ў бок, не папаў. Жывучы, відаць, я.

— А на той, на першай былі?

— Заспеў і тую. На фронт, праўда, не загрымеў. Затое пасля рэвалюцыі давялося палётаць з вінтоўкай і шабляй на кані. Бандзюкоў лавілі. Мы за імі ганяліся, а яны нас вывіжоўвалі. Хто — каго? Усё-такі мы ім шыю скруцілі. Непадалёк адсюль усё гэта было. Далася нам горш, чым горкая рэдзька банда нейкага Лядзецкага ці Мядзвецкага. Д'ябал яго ўжо помніць!.. Во гонімся за бандай па пятах, спіну можна шабляй дастаць. Ускочым за ёй у вёску. Туды-сюды — няма! Мы ў наступную! Ну, нідзе не дзенецеся, гады. Будзеце ў нашых руках. Ажно — зірк! Гарыць тое сяло, якое мы толькі што пакінулі. Мы — назад! А ўжо занялося другое сяло. Во былі вобаратні. Га? — Прыцаў весела глядзіць на мяне, нібы пытаецца: што скажаш, галубок, на гэта? Пляскае далонямі, сціскае іх, нібы нешта трушчыць паміж імі. — Нічога. Пабралі ўсіх да аднаго. Як тых пісклят. І верхавода сцапалі. У царкоўным падвале. Паперапіваліся пасля налёту на краму. Асалавелы ад перапою гэты Лядзецкі, як затраўлены звер, кідаўся на папа, які падказаў, дзе хаваюцца бандзюкі... А нешта ў хуткім часе мяне і здэмабілізавалі дамоў.

— Цягнула да зямлі? — стараюся ўлавіць узрушанасць на твары Андрэя Васільевіча.

— І да зямлі і дамоў цягнула. А як жа! — пацвярджае Андрэй Васіль-




## Васіль МАКАРЭВІЧ

Мал. В. Тарасава.

евіч. Нечакана ён хапануў на поўныя грудзі паветра, сагнуўся ў дугу, ледзь не стукнуўшыся лбом у стол, і цяжкі кашаль скалануў яго поўнае цела. Адсопся, выцер рукавом слёзы, што выступілі ад натугі. — Гэта во хвароба падваліла, хай яна ідзе на сухі лес... Ага, дык я, значыць, дамоў прыйшоў. Мяне за стол вядуць, а я брыкаюся, як той жарэбчык-двухлетак, якога першы раз у аглоблі шчэмяць. Карціць хутчэй пабегчы на сяло, аднагодкаў убачыць, на таварыскую арцель паглядзець. Яна ўжо ў нас тут была. Каб не пакрыўдзіць старых, абнашчыўся чаркай, шапку ў ахапку і махнуў на сяло. Сустрэў старшыню арцелі Трыхана Пугачова. Як цяпер во помню: водзіць ён мяне па двары, а я без яго слоў бачу, якія гладкія ды сытыя каровы і свінкі. Колькі ў свірне дабра. Ну, я тады і ўзгарэўся. Пачаў падбіваць сваіх суседзяў арганізаваць камуну. Сем сем'яў і ўступіла ў яе. За дзень звялі ў адзін хлеў коней і кароў, ссыпалі ў адно месца збожжа. У мяне нічога не было. Ведама ж, толькі з войска прыйшоў. Дык бацька выручыў. І каня даў, і карову, і збожжа адмераў... Усё у камунараў ёсць. Толькі вось дзе жыць? Сем'і ўсё лічы што маладыя. У бацькоў жылі. Ламаем галовы, а нехта і кажа: «Панская харомiна пустуе. Хіба гэта не жытло?» У ёй мы і атабарыліся.

— Ну, і пачалося ж, — неяк адразу памаладзеўшы, круцячы з боку на бок кругляшом галавы, відаць, усёй памяццю абрынуўшыся ў тыя далёкія дні, заракатаў гаспадар басам. — Яшчэ не ўстане сонца, а мы як не наперагонкі ў поле бяжым. Прыскочым — і давай адзін перад адным старацца, аж гарым. Усе дружныя, падхватныя. За якую работу ні ўхопімся, за дзень і ўходуем яе. Бывала: скосім пожні і высушым да заходу сонца сена. Здаецца, што яшчэ трэба? Дык не ж! Узгарымся яшчэ і пачнем кідаць ноччу стагі.

Прыцаў прыкрывае далонню вочы, смяецца, пасля махае рукой.

— А якая работа ноччу? То глядзіш, каб не сунуў віламі табе ў бок падаваты. То сам шаснеш часам са стога прама на галовы мужчынам. Во як да работы рваліся. Адкуль і сіла бралася тая? — ні то дзівіцца, ні то пытае сам сябе гаспадар.

— Спраўна зажылі?

— І не пытайце! Мы тады смяяліся: каб здарыўся, кажам, такі цуд: устаў бы з магілы абірала і абдзірала пан Шэпілаў і зірнуў на наш набытак, то, відаць, ад здзіўлення анямеў бы, а можа і паралюш хапіў бы яго. Так забагацелі! А як жа гэта багацце набывалася? Мала нам касьбы, малацьбы ды ворыва! Дык не! Зарупіла яшчэ ўзбіцца на свой сад. І самі, кажам, з'ядзім яблыка, і дзеці паласуюцца, і капейчына яшчэ якая будзе. Але развагі развагамі, а сад трэба вырасціць. Каб вырасціць, трэба недзе ўзяць яблыні, Ну і пачалі хадзіць па лесе ды шукаць лесавушкі. Іх тут па наваколлі —уга!—колькі было! Заклалі пітоўнік.

— Пітомнік? — перапытваю я.

Гаспадар глядзіць на мяне, не разумее, што я хачу ад яго. Нарэшце ківае галавой:

— Ага! Я ж кажу, пітоўнік. Пачалі мы з яго памалу браць ды саджаць яблыні на полі... Не зразу пасыпаліся яблыкі з таго саду, але ж дачакаліся. Цяпер сад разросся аж на дзве сотні гектараў, — радуецца Андрэй Васільевіч. — Паслужыў нам пітоўнік. Ой, як паслужыў!..

— А яшчэ ж сыраварня была, — шчэміць у гаворку сваё слова Ефрасіння Рыгораўна. Яна вярнулася ўжо ў хату, бразгае вядром, тупае каля печы, арудуючы то вілачнікам, то чапялой.

— Ат, зноў ты!.. Сам ведаю!—злуецца гаспадар. Ён, па ўсім бачна, не любіць, калі яго перабіваюць або забягаюць яму наперад. Нахмурыўшыся, Прыцаў мацае па кішэнях, быццам шукае папяросы, хаця ён і не курыць. Бо не можа вось так, адразу, ухапіцца за тую сыраварню, якую, мабыць, і не ўспомніў бы. А што не ўспомніў бы, гэта так. Старасць! От на яе і злуе Андрэй Васільевіч. А злосць гэту хоча сарваць на іншым.

— Ёй адна сыраварня толькі і ўцямку, — буркатліва зазначае гаспадар. — Бо сыры там рабіла.

Не ўтрымаўся, каб не падкалоць.

— А вось пра першы трактар, дык і не ўспомніла б.

Ефрасіння Рыгораўна не абзываецца. Ёй, відаць, не хочацца весці непатрэбную перапалку, ды яшчэ пры чужым чалавеку. Яна моўчкі совае вілачнікам у печы. Гэта толькі і трэба гаспадару. Ён адразу мякчэе і з твару і голасам. А ў цёплым позірку, у прытоенай усмешцы, якая так і вылузваецца з-пад напускной строгасці, бачыцца ўсцешанасць, нават гонар: «Вось якая ў мяне далікатная ды разумная жонка. Дзе трэба, слова ўставіць, а дзе трэба, маўчыць».

Але, напомніўшы пра сыраварню, гаспадыня, як усё роўна якую калоду ўскаціла поперак гаворкі, якую гэтак гладка вёў гаспадар. І цяпер не абысці, не аб'ехаць яе старанай. І маўчаць нельга.

— Праўду кажа, была і сыраварня, — задумліва пачынае Андрэй Васільевіч. — Тут такая справа закруцілася. Было ў нас сем кароў, а праз год стала чатырнаццаць. А яшчэ праз год — у два разы больш. Малака было, ну, проста неўпаед. Хоць купайся ў ім. Глядзім і не ведаем, куды яго дзяваць. На вуліцу ж не выліваць. Аж тут стукнула некаму ў галаву думка: сваю сыраварню займець. Падшукалі скляпок, завезлі патрэбнае начынне, прыставілі людзей і — загуў наш саматужны заводзік. Сыры пакаціліся з яго — круглыя, роўныя, што рэшата. Адрэжаш лустачку, возьмеш на зуб,— ну, здаецца, за ўсё жыццё не еў такога смачнага!.. Во і мая старая была на той сыраварні.

Гаворыць ён гэта гучна, нібы запрашае гаспадыню ўступіць у гаворку: маўляў, вось тут табе і карты ў рукі — расказвай пра сыраварню. Гаспадыня ж занята сваім: яна адцэджвае бульбу, высыпае ў карыта і таўчэ яе свінням. Пара воблакам узнімаецца над карытам. Яна ахутала, завалакла старую. Прэсны пах гарачай бульбы, як вясновы туман, плыве цераз парог, даходзіць да нас. Гаспадар смачна ўцягвае яго носам, прыслухоўваецца.

— Кормніка дзяржым, — мімаходзь зазначае ён. — Не для сябе. Сын тады-сяды з Оршы наязджае. Трэба ж нешта палажыць на дарогу ў чамадан. Самім ужо нам многа і не трэба... Можа табе памагчы вынесці карыта? — гукае ён Ефрасінні Рыгораўне.

— От, сама ўпраўлюся, — разгінаецца гаспадыня. — Ты вунь лепш з чалавекам займайся. А то пырхаеш, як той верабей па каноплях.

— Дык от, — вяртаецца да ранейшай гаворкі Андрэй Васільевіч, — праз тыя сыры цэлая мітрэнга была. Пачалі рабіць іх столькі, што завалілі імі і саміх сябе, і суседзяў. Ніхто браць не хоча. Людзі не паспяваюць спажываць. Бо не адны мы сыры рабілі. Была сыраварня і ў таварыскай арцелі. Яны таксама стараліся... Дайшло да таго, што справа пакацілася ў раён. Прыязджае адтуль нейкі начальнік. «Што, — кажа, — канкурэнтамі сталі? Камуна з таварыскай арцеллю ў канкурэнцыю ўступіла?» «Нічога курэцкага мы не ўступалі, — не дачуўшы, запярэчыў неўпапад дзед Яўсей. — А вось з сырамі няладна ў нас». «Чуў звон ды не ведае, адкуль ён, — засмяяўся раённы начальнік.— Тут ясная справа: трэба аб'ядноўвацца: дзве гаспадаркі звесці ў адну. Зразумела я тлумачу, дзед?» «А што тут не разумець? — не сунімаецца гаваркі дзед. — Гэта ўсё роўна, што самасад з двух капшукоў ссыпаць у адзін і курыць яго разам». «Можа, — кажа раённы начальнік, — і не дужа трапна, але пацэліў... І чакаць няма чаго. Трэба аб'ядноўвацца». Бачым: разумны чалавек і разумнае гаворыць. То чаму не паслухацца? Памазгавалі, параіліся на сходзе дый аб'ядналіся. Старшынёю абралі Трыхона Пугачова. Неўгамонны чалавек быў.

— Ну, братка, — даверліва прызнаецца Прыцаў, — у калгасе, далібог не хлушу, сталі жыць яшчэ лепш... Я цэлы дзень у полі з калясьмі шнурую, а прыеду дамоў, гляджу: мяшкі з жытам на падворку стаяць, бульбы бурт насыпаны. На працадні столькі выйшла. Дык самі і прывезлі... Ды не спалі і ваўкалакі... Тыя, што на двух нагах. Неяк раз ці то нарыхтоўку павезлі праз ноч на конях, ці за чым іншым паехалі. Не адбарабанілі і вярсты дзве, як бачым, агонь шугануў над сялом. Сэрца так і ёкнула. Параспрагалі коней, ускочылі на іх і верхам джгаем назад. Ляцім і здалёк бачым — гарыць калгасная абора, дзе стаяць каровы. Роў стаіць, хоць вушы затыкай. Пакуль пасаскокваλі з коней, дах і гахнуўся вобзем. Каровы дзве ці тры толькі і ацалелі. А неўзабаве тыя ж самыя гады і старшыню нашага паклалі з абрэза. Як выступаў перад сходам, так і ўпаў грудзьмі на чырвоны абрус, якім быў засланы стол.

— Злавілі забойцаў?

— А дзе яны маглі дзецца?! Злавілі і засудзілі.

— Калгаснікаў тым стрэлам не запужалі?

— Гм. Гэта аднаго можна запужаць. А хіба ўсё сяло запужаеш? Калгас наш стаў перадавы. Прагрымеў ён на ўсю краіну. Чутка пра яго аж за мяжу пайшла. Не глядзіце так на мяне, праўду кажу. Вось слухайце... Быў я нешта ў полі. Аж бачу, легкавушка з-за павароту выскачыла — і цуп! — каля мяне стала. «Ком, — заве мяне пальцам чалавек у картузе,— дзе ест калхоз «Рассвет»? Братачка, у мяне сэрца так і шаснула ўніз. Немцы! Як, думаю, яны апынуліся тут? Можа, якая вайна, а мы тут, як у нары сядзім, нічога не ведаем. А немец, відаць, заўважыў маю разгубленасць і тлумачыць: «Мы рабочыя-металісты з Лейпцыга. Многа добрага чулі пра ваш калгас. Нашы таварышы паслалі перадаць вам наша рабочае прывітанне». З таго б, думаю, і пачынаў. А то перапужаў да смерці. Улез я ў легкавушку і пакацілі мы да сяла. Калгаснікі сустрэлі іх, як мае быць. Вадзілі, паказвалі ім калгас. А пасля сабраўся сход. Рабочы і перадаў калгасу сцяг, які прывёз з Лейпцыга. На ім, як цяпер помню, было напісана: «Руку — таварышу, кулак — ворагу!» Спачатку перапісваліся з імі. А пасля перасталі лісты прыходзіць. Гітлер дарваўся там да ўлады.

— Гэта добра помніцца мне, бо нешта тады і сын нарадзіўся ў мяне. Дзеткі пачалі прыбываць. Уцеха адна з іх! І не толькі сваіх гадаваў. Усынавіў яшчэ хлапчука. Маці ў яго памерла. А бацька кінуў-рынуў усё і пайшоў у суседняе сяло ў прымы да аднoй разжэнькі, — так у нас называюць разведзеных. Косця астаўся, як усё роўна сірата. Прыйшоў я да яго раз у хату. Гляджу, а хлопец нейкі цвілы сухар гламожджа. Сам сухенькі такі, кволы — свіціцца наскрозь. У сэрца як хто мне іголкай укалоў: так шкада стала. Узяў я Косцю за руку ды павёў дамоў. Адчыніў хату і кажу старой: «Адзень хлопца і накармі. Будзе жыць у нас». Сеў хлопчык есці крупнік і не можа лыжкі да роту данесці: слёзы па бабіне сыплюцца з вачэй. Не змог я глядзець. Адвярнуўся...

Андрэй Васільевіч змаўкае. Вейкі часта-часта моргаюць. Нарэшце ён спраўляецца з сабой.

— Харошы хлопец быў. Перад вайной пайшоў у армію. Усяго адзін раз прыязджаў у водпуск. Больш яго я не бачыў. Прыслалі паведамленне, што прапаў без вестак. Толькі фотакартка і асталася ад яго.

Прыцаў паказвае вачамі на сцяну. Там, у самаробнай рамцы, фотакарткі. З адной глядзіць малады хударлявы хлопец. Нос прамы, позірк пільны, рашучы.

— Мяне самога вайна ў Маскве заспела. Хадзіў па сельскагаспадарчай выстаўцы, на якую калгас паслаў, і раптам, як хто абухом па галаве: вайна! Што тварылася на вакзале! Вэрхал, таўкатня, гармідар! Ледзь уціснуўся ў вагон. Еду, а душа не на месцы. І чым бліжэй да Гомеля, тым больш грукату, выбухаў, пажару. Ноччу ўсё неба ў полымі, быццам яго хто падпаліў. Насілу перапраўіўся цераз Дняпро. Заскочыў дамоў, убачыўся з жонкай і пабег у ваенкамат. А там гэткім як я, адзін сказ: прабівайцеся на ўсход... На ўсход бег на нагах. А ад Сталінграда да Одэра поўз на жываце. Сапёрам быў. Разміраваў праходы і для пяхоты, і для танкаў. Давалі фашысту і жару і копаці. Нянавісці па завязку было. Палучыў я ад жонкі пісьмо. Гады, гэтак над чалавекам змывацца! Гнеў такі, што аж вочы засцілае. Ну і пёрлі ж таго немца. Вось так мы рабілі з імі!..

Твар у Прыцава камянее. Рукамі ён робіць адчайны рывок у бакі, нібы раздзірае напал моцную палатніну.

— А на Одэры ледзь не быў мне каюк. Навялі пантонны мост, сядзім у бліндажы, чакаем. А немец з таго берагу пастрэльвае. Не так што, каб часта, але і не рэдка. Капітан мне і кажа: «Ідзі, Прыцаў, паглядзі, можа, немчура разбіла нашы пантоны!» Я пад казырок: «...Ёсць!»—і выскачыў на бераг. Не прайшоў і паўсотні метраў, як гахнуў каля мяне снарад. Адчуваю, — прамой наводкай. Добра што снарад трапіў пад абрыў. Мяне паветранай хваляй і кінула вобзем. Не помню, колькі праляжаў, пакуль ачухаўся. Абмацаў сябе: дзякуй богу, цэлы, нават не ранены. Прыходжу ў бліндаж, а хлопцы да мяне: «Братка, няўжо з таго свету? Мы ж бачылі, як дзеўбануў цябе снарад у самую макаўку». А ў мяне ў вушах толькі звон. Кантузіла. Адправілі ў медсанбат. А неўзабаве і вайна скончылася. Са шпіталю я і вярнуўся дамоў.

Андрэй Васільевіч цяжка аддыхваецца, нібы толькі што прайшоў доўгую дарогу. Нахіляецца да мяне, дакранаецца да локця рукой.

— Вы думаеце, гэты домік тады быў? Не. З двухсот дамоў ацалела, можа, тры ці чатыры. Хронт праз сяло праходзіў. Што снарадамі разнесла, а што немцы развярнулі ды на бліндажы пусцілі. Жонка ў зямлянцы ляпілася. Жытло такое, што страх адзін. Ледзь узбіўся на дамок. Улезлі ў хату — весялей на душы стала. Якніяк куток ёсць. А там далей-болей пачаў калгас у сілу ўбірацца. Праўда, многа памянялася старшынь за ўвесь час. Ды яно заўсёды так. Каб засталося чыстае зерне, трэба ж адвеяць паздзе. І вось, як адвеялі ўсялякае пазаддзе, то сталі і на працадзень палучаць. Хоць і не многа спачатку, але было, як кажуць, чым душу да цела прывязаць. Гэта — тады! А цяпер у калгасе, як дзе і на заводзе, людзі палучаюць грашовую аплату. Добра жывуць... Эх, каб гадкоў дзесяць з сябе скінуць. Ацураўся б пенсіі, сіднем не сядзеў бы дома. У поле б пабег. Ды што ж, сокалу — сакаліная, а драчу — драчова!..

Прыцаў змаўкае, задумваецца. Ён глядзіць прама перад сабой, але я адчуваю, што ён зараз не бачыць ні мяне, ні гэтай хаты. Нарэшце ён ачынаецца.

— Тут у нас ля канторы будуюць Палац культуры. Дык спачатку капалі глыбокія, як траншэі, катламаны. Я пытаюся раз у прараба: навошта іх рыць? Вунь падруб хаты ніхто ніколі не апускаў у зямлю. Наадварот, сараліся, каб як вышэй на камні палажыць. А ён смяецца: «Пад фундамент, дзеду, рыем. Без яго будынак мала таго, што асядзе, а можа пераламацца напал, як булка хлеба, выпечаная хаўзаватай гаспадыняй. А фундамент трымае ўвесь будынак, як во, скажам, я гэтую манету на далоні».

Андрэй Васільевіч паціраe далонню скроні.

— Вось я і думаю, што і мы нешта накшталт таго фундаменту, які ўвесь у зямлі, амаль не бачны нікому, а трымае цэлую будыніну. Гэта суцяшае і мяне. А старасць — што? Яе ніхто і не абвяжыць і не аб'едзе. Ад яе ніхто і золатам не адкупіцца. Вось так.

Андрэй Васільевіч цяжка ўстае з крэсла. Мне кідаецца ў вочы яго марозная сівізна. Дзіўна, што ён не горбіцца, не сутуліцца. Невысокага росту, шыракаваты ў плячах, ён падобны на добрае шула. Такога цяжка зламаць. Такі пройдзе праз усё: і пекла і рай. І выйдзе чалавекам. І думаеш яшчэ: як ідзе яму слова камунар!

*Калгас «Рассвет»,
Жлобінскі раён.*

АЛЯКСЕЙ КАРПЮК

# ІШЛА ВАЙНА НАРОДНАЯ



Аляксей Карпюк скончыў работу над новай кнігай — «Чаго мы цяпер вартыя». Гэта — нарыс пра яго родную Гродзеншчыну, пра людзей Наднямоння.

Прапануем увазе чытачоў старонкі з гэтай кнігі.



ПРЫ дарозе паміж Нетупай і Юзэфовам, дзе цяпер толькі сіратліва расце адзічалы куст бэзу, калісьці стаяў адзінокі дом з хлявом і клуняй. Гісторыя гэтай мясціны такая.

У першыя дні вайны па Юзэфоўскай дарозе вялі палонных чырвонаармейцаў. Адзін баец уцёк і забег у адзінокі дом перапрануцца.

Праз гадзіну ехалі міма фашысцкія жандары з паліцаямі. Гаспадар убачыў іх праз акно, схаваў байца ў склепе пад падлогай.

У хату зайшоў спатнелы паліцай вады напіцца, а пяцігадовы Толік вазьмі ды пахваліся яму:

— А от я цябе не баюся і не сказу, сто ў насай яме за боцкай з капустай дзядзя хаваецца!

Жандары вывалаклі і расстралялі палоннага.

Затым вывелі з хаты ўсю сям'ю — бацькоў, хлопчыка, дзвюх дзяўчынак — і паставілі пад гумно. Маці хацелася ўратаваць хоць сына. Яна ўпрасіла немца, каб дазволіў хлопчыку схадзіць за вадой. Але малое, вядома, уцячы не здагадалася. Толік прывалок паўвядра вады і кубак.

Сям'я напілася. Тады фашыст скасіў усіх з аўтамата ды падпаліў будынкі...

Гэтак сама з калоны палонных уцёк з Азёрскай шашы маладзенькі лейтэнант з Масквы. Нямецкая куля зваліла яго ў кустах, калі хлопец адбегся ўжо даволі далёка.

На другі дзень масквіча Васю з прастрэленым тазам знайшлі хлопцы з хутара Крушнікі — Віця і Сеня Таранковы. Разумеючы сваё становішча Вася ўзмаліўся, каб яго дабілі. Віця і Сеня хлапца перавязалі, змайстравалі шалаш, паклалі параненага на сена ды накрычалі:

— Не ный, доктара прывядзем!

Але знаёмы фельчар з Астрына агледзеў рану і заявіў Таранкам, што справы іхняга сябра безнадзейныя. Тут яшчэ на хутар звалілася бяда: ноччу бандыты забілі старога Таранку.

Сям'я пахавала бацьку, пагаравала ды змірылася. Хлопцы і далей выкручваліся ад вывазу ў Германію і даглядалі Васю. Паранены, наперакор прагнозам, не паміраў.

Надышлі замаразкі. Хлопцы выкапалі зямлянку, уцяплілі, паклалі ў яе параненага і гэтак сама, два разы ў дзень, прыносілі яму ежу.

Неяк маці пякла масквічу коржыкі з мёдам. Старэйшы сын ёй заявіў:

— Салодкае яму апрыкла. Ён просіць тое, што самі ямо — бульбы, капусты...

Маці заўважыла:

— Сенечка, глядзі ж, каб не было чаго кепскага!..

— Мама, хіба можна адмовіцца ад хворага?— умяшаўся малодшы сын, Віця. — Ці ты так нас вучыла?!.

Вася памёр толькі праз год.

Таранчыха здагадалася аб тым, што здарылася, калі засмучоныя хлопцы вярнуліся з лесу і папрасілі мыла ды пасцілку. Яны лейтэнанта абмылі, захінулі ў пасцілку і пахавалі каля зямлянкі.

У апошні момант хлопцам, відаць, не хапіла асцярогі. Іхнія клопаты з пахаваннем заўважыў сусед-асаднік і данёс каменданту. Сыноў і старую арыштавалі.

— Вы яго кармілі? Вы лячылі палоннага? — доўга мучыў іх начальнік астрынскай паліцыі.

Трымалі Таранкаў асобна, па адным выклікалі на допыт. Скатаваных і павязаных пастронкамі сыноў Марыля ўбачыла толькі, калі абодвух вялі ў машыну. Маці іх ледзь пазнала. Сеня паклаў ёй на калені галаву і пачаў нешта гаварыць. Яна і не здагадалася, што ён памірае, падумала — сын захацеў спаць. Маці паклала яму хустку, накрыла крысом і ўсю дарогу, покуль ехала машына, падтрымлівала сынаву галаву і бедавала, — а што ж будзе з дачкой, дзесяцігадовай Фаінкай, якая засталася адна дома.

Прыехалі яны ў гродзенскую турму. Гітлеравец зірнуў на іх і закрычаў сябру:

— Ты глядзі! — здох гэты!.. Выкінь яго!..

Сеню вывалаклі на турэмны двор, кінулі ў яму. Покуль з цынічнымі здзекамі гітлераўцы шукалі лапат, яна яшчэ паспела закрыць сыну хусткай твар.

Віцю расстралялі ля фартоў за Навумічамі...

■

Былая падпольшчыца Люба Зорка ў 1955 годзе ўгаварыла мяне з'ездзіць да ўдавы на хутар Крушнікі, аб якой я тады нічога не ведаў. Пачыналася лета, але надвор'е стаяла халаднаватае— якраз для такой язды.

Селі мы на веласіпеды і пакацілі.

Марыля, гаварыла Люба, яшчэ здаровая жанчына, жыве, як затворніца, у лесе — толькі памяццю аб сынах, нікога не хоча бачыць. Яе хлопцы не былі ў партызанах, не служылі ў арміі, кабета нават не мела права на пенсію. Старшыня сельсавета ды райвыканкомаўцы — сябры Сені і Віці — вызвалілі ўдаву ад усялякіх налогаў, даюць каня — узараць гарод, прывозяць ёй дровы на зіму...

Ад'ехаўшы ад Скідэля кіламетраў з дзесяць, мы апынуліся ў глухім лесе. Былая партызанка арыентавалася ў ім, бы ў сябе на падворку. Папятляўшы з добрую гадзіну па сцежцы скрозь густы ельнік, выбраліся мы, нарэшце, на паляну.

— Вось і Крушнікі! — паціху аб'явіла спаважнелая спадарожніца. — Якая цяпер Марыля? Не бачыла яе ўжо гадоў з пяць!

Хутар меў толькі дзве хаты. Што здраднік жыў у хаціне з саламянай страхой, здагадацца было не цяжка — у ёй былі забіты аполкамі вокны і дзверы. Люба павяла мяне да ладнай хаты, крытай гонтай, пад самымі сценамі якой працякала Котра.

Пакінулі мы веласіпеды ля плоту ды неўзабаве апынуліся на кухні — прасторнай і ахайнай, з бліскучымі ад чысціні каструлямі, талеркамі. Здавалася, што ў хаце жыла ладнаватая сям'я. Але я ўжо ведаў, што адзіная дачка Марылі пасля вайны скончыла педінстытут у Гродна і працавала недзе далёка адгэтуль настаўніцай.

— А. Люба! — даволі спакойна кінула ад кафельнай пліты жанчына, нібы бачыла сяброўку яшчэ сёння раніцай.

Гэта была зусім не зламаная жыццём старая. Наадварот. Я ўбачыў на дзіва моцную і рухавую кабету.

— Дзень добры, Марыля! — не пакрыўдзілася Люба і не звярнула ўвагі на халодны прыём. — А мы з таварышам вырашылі навясціць цябе.

— То сядайце сабе вунь на лаве.

Старая на мяне нават не глянула. Што ж, яе сыны прыкладна майго ўзросту. Глядзець жанчыне на мяне — што вадзіць пальцам па аголенай ране. Разумеў я кабету ды не мог адвесці вінаватых вачэй.

У Таранчыхі мы засталіся нанач. Жанчыны леглі разам, а мне паслалі на лаве. Сяброўкі доўга ўглядаліся праз адчыненыя дзверы ў вялікую хату, неяк дзіўна маўчалі — насцярожана, нешта не дагаворваючы.

— Лес перастаў гаманіць... — азвалася Таранчыха. — Мо мая Фаінка з'явіцца, калі надвор'е палепшае...

— Павінна ўстанавіцца! — падхапіла Люба, узрадаваная, што адцягнула ўвагу сяброўкі, і пачала старацца ўвагу гэтую не выпускаць. — А той хлапец, пра якога мне казалі ў Скідэлі, ездзіць яшчэ да яе?

Маці загаварыла няўважліва, пасля паўзы:

— Раз ці два прыехаў на равэры...

— Ой, будзе так перабіраць і дзеўкай застанецца!..

— Калі ён якійсьці хвалько і надта пагана гаворыць... Нічога, знойдзе свайго чалавека, калі выжыла!..

Не адрываючы вачэй ад вялікай хаты, маці цяжка ўздыхнула. Туды не пераставала глядзець і Люба. Паступова, як магнітам, чыстая палавіна хаты прыкавала і маю ўвагу.

Праз вокны з чыстымі шыбамі хату залівала святло месяца. У прасторным пакоі было відна, як днём. Ля кафельнай грубкі стаялі тры жалезныя ложкі, і над кожным з іх акуратна вісела мужчынская вопратка. Здавалася, мужчыны толькі што распрануліся, пайшлі да Котры памыцца і зараз уваляцца сюды ды пакладуцца спаць.

Жудаснае ўражанне.

— І там печ топіш? — пачуўся голас Любы.

— Толькі зімой.

— А падлога як чыста вымыта...

— Кожны дзень праціраю... Кожны дзень ложкі сцялю, вопратку чышчу...

— І гэтак трынаццаць гадоў?

— А я і не лічу іх! — пакрыўдзілася Марыля.

...Вельмі цяжка, амаль немагчыма перадаць тыя боль і пакуты, якія зведала Гродзеншчына ў вайну. Для гэтага, мабыць, трэба смерць адважнага Толіка і яго сям'і з-пад Юзэфоўскай дарогі, смерць масквіча Васі і братоў Таранкаў з хутара Крушнікі ды мукі іхніх мацярок памножыць на 300 000 іншых ахвяр, і толькі тады, мабыць, атрымаем уяўленне аб велізарным акіяне гора, якое на берагі Нёмана прынеслі фашысты.



ПА ВЫСТАВАЧНЫХ ЗАЛАХ

# ДЗЯЖУРНАЯ— ДОБРА ГЭТА ЦІ ДРЭННА?

Рэспубліканская мастацкая выстаўка, прысвечаная 25-годдзю з Дня Перамогі, неяк ціха адкрылася 7-га мая і ціха чакае, калі надыдзе час саступіць месца якой-небудзь іншай выстаўцы, вызваліць ёй экспазіцыйную плошчу...

Выстаўка гэта не выклікала асаблівай зацікаўленасці ні ў мастакоў, ні ў мастацтвазнаўцаў, ды і наведвальнікаў на ёй не густа.

І не дзіўна. Па-першае, для падрыхтоўкі да яе ў мастакоў зусім не было часу — не прайшло ж і месяца, як закончыла працаваць выстаўка, прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння Леніна. Па-другое, выстаўка «25 гадоў з Дня Перамогі» амаль не фінансавалася.

Натуральна, што ў арганізатараў выстаўкі было толькі адно выйсце — рэтраспекцыя...

Звычайна аб рэтраспектыўных выстаўках кажуць: «На гэтай выстаўцы сабраны лепшыя работы нашых мастакоў, прысвечаныя...» і г. д. Словы гэтыя часцей за ўсё слушныя. Але, гаворачы іх, часам забываем, што такія работы добра знаёмы гледачу.

Канечне, нам прыемна сустрэцца з такімі выдатнымі творамі, як карціна У. Сухаверхава «За родную Беларусь», А. Шыбнёва «Палонных вядуць», І. Давідовіча «Нарачанская быль», Н. Воранава «Салдаты», М. Савіцкага «Віцебскія вароты», М. Залознага «Перамога», з графічнай серыяй А. Захарава «Балада пра маці», скульптурнымі партрэтамі З. Азгура, кампазіцыямі А. Заспіцкага і В. Палійчука. Але ўсё ж такі гэтыя работы не задавальняюць нашай прагі ўбачыць новае, незнаёмае.

Дзеля справядлівасці трэба сказаць, што на выстаўцы ёсць некалькі новых работ. Сярод іх серыя з чатырох графічных лістоў «Не забудзе Беларусь» А. Дэмарына, два лісты «Памяць сэрца» і «Беларускія партызаны» маладога графіка І. Капляна, ілюстрацыі да кнігі вершаў А. Астрэйкі «Прыгоды дзеда Міхеда», зробленыя Э. Агуновічам, серыя П. Любамудрава «Справа наша справядлівая», акварэлі П. Лысенкі і А. Волкава, жывапісныя палотны Л. Шчэмелева «За вольную Беларусь», У. Шпартава «Асобае заданне». У. Стальмашонка «У Налібоцкай пушчы», М. Чэпіка «Ля помніка Перамогі», Я. Каробушкіна «Нацюрморт», Л. Дударэнкі «Партрэт сержанта марской пяхоты П. Цыбулькі» і, здаецца, усё.

Нельга сказаць, што тое-сёе з новых твораў не выклікае цікавасці. Вельмі цэльна, прадумана і завершана глядзіцца серыя А. Дэмарына. Гэта шчыры мастакоўскі роздум аб той барацьбе, што вёў беларускі народ у трагічныя часы акупацыі, аб яго мужнасці, пакутах і нескаронасці. Цікавыя фармальныя знаходкі ёсць і ў карцінах Л. Шчэмелева, У. Стальмашонка, М. Чэпіка, але ўсе яны не падымаюцца вышэй лабараторных пошукаў мастакоў, варыяцый на вядомую тэму.

Зусім няма на выстаўцы новых работ скульптараў, плакатыстаў...

Але не гэта галоўная прычына няўдачы выстаўкі. Самым трывожным з'яўляецца тое, што выстаўка мае выпадковы характар, яна не аб'яднана галоўнай думкай, не нясе адзінай тэмы. А між тым, што-што, а рэтраспектыўны аддзел можна было б скласці больш прадумана, прасачыць па ім усе этапы барацьбы нашага народа, больш поўна і цікава расказаць аб сучаснай нашай арміі, аб тых людзях, якія сёння стаяць у страі, сучаснай магутнай тэхніцы нашых Узброеных Сіл.

Усё гэта не было зроблена...

Аднойчы А. Луначарскі пісаў: «Дрэнная агітацыя — гэта контрагітацыя...»

Здаецца, што арганізацыя такіх «дзяжурных» выставак дрэнная агітацыя. Бо ў наведвальніка, які не вельмі добра знаёмы з беларускім мастацтвам, можа скласціся ўражанне, што беларускія жывапісцы, графікі і скульптары мала і неглыбока гавораць аб подзвігу нашага народа, нашай арміі, якія перамаглі фашысцкую навалу, якія непахісна стаяць на варце міру...

А. БАРАДАЧ.



Натхненне! Пяшчота... Патэтыка! Летуценні... Маланка!.. Не верылася, што Юрый Яфімаў дырыжыраваў у гэты вечар апошнім у сёлетнім сезоне канцэртам Дзяржаўнага сімфанічнага аркестра БССР.

Фота Ул. КРУКА.

ТЭАТР

Барыс БУР'ЯН

# А КРЫЛЫ ДУЖЭЮЦЬ

**СПЕКТАКЛЬ «...ПРАЎДУ! НІЧОГА, АКРАМЯ ПРАЎДЫ!!!» НА СЦЭНЕ АКАДЭМІЧНАГА ТЭАТРА ІМЯ Я. КУПАЛЫ**

І ЧЫТАЧЫ гэтай п'есы, жанр якой аўтар Д. Аль вызначыў як «дакументальную хроніку ў двух судовых пасяджэннях», здагадваюцца, што яна дае магчымасць для стварэння публіцыстычнага відовішча. Па сутнасці, тэатру прапанавана ўзнавіць у сцэнічнай форме адлюстраваны ў стэнаграмах «судовы працэс», які ўрад Злучаных Штатаў Амерыкі наладзіў у свой час, каб «выкрыць» нібыта незаконны характар Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Расіі і тым самым падвесці пад сваю ваенную авантуру супраць Савецкай рэспублікі нешта падобнае да прававых норм. Гісторык па адукацыі, драматург Д. Аль адчуў у гэтым матэрыяле патэнцыяльную п'есу «без выдумкі»: ён апрацаваў у адпаведнасці з патрабаваннямі сцэны архіўныя дакументы, увёў у ход працэса некалькі таксама гістарычна рэальных фігур, якія асацыятыўна з'яўляюцца з «мінулага» і з «будучыні» адносна часу дзеяння ў самім спектаклі, як бы выкліканыя сюды вядучым — нашым сучаснікам. Калі дадаць, што і Вядучы мае тэкст «ад аўтара» ці «ад тэатра», то гэта і будзе тое драматургічнае «ўсё», што складае змест і дух твора «... Праўду! Нічога акрамя праўды!!!» Аўтару не трэба было асабліва намагацца, каб даць завострана саркастычныя характарыстыкі цемрашалам-суддзям з гэтай беспрэцэндэнтнай сенацкай камісіі на чале з Лі Аверменам, — яны вынікалі з дакументаў. Не было патрэбы і «ўзнімаць» пафас станоўчых персанажаў — паводзіны іх прататыпаў таксама дыктаваліся жыццём.

Як гэта выглядае ў сцэнічным увасабленні?

Мабыць, самым дакладным будзе слова — пераканаўча. Спектакль у купалаўцаў, як кажуць, адбыўся: гэта цікавая работа калектыву, які яшчэ раз паказаў, што ўмее смела адыходзіць ад традыцыйных і праверaных форм, паглыбляцца ў арыгінальны мастацкі свет, шукаючы новыя вобразы і новы метад іх раскрыцця. У гэтым вялікая заслуга маладога рэжысёра Валерыя Раеўскага. Калі ў дэбюце — «Што той салдат, што гэты!» Б. Брэхта, — ён быў адкрытым адэптам Маскоўскага тэатра на Таганцы, дзе стажыраваўся яшчэ студэнтам Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута, і гэта выяўлялася і ў бліскучых экспрэсіях-знаходках няўрымслівага мастацкага тэмпераменту, і ў пэўнай раскіданасці асноўнай думкі (магістральнага стрыжня) спектакля, то ў «Праўдзе...» рэжысёр больш сабраны і мэтанакіраваны. Канечне, пастаноўшчык «любімаўскай школы» павінен быў скарыстаць усе шчаслівыя магчымасці, якія дае яму драматург, і В. Раеўскі шчодра напаўняе сцэну то плакатна-сімвалічнымі фігурамі, то гратэскавымі персанажамі, то крэсліць графічныя лініі ў паводзінах герояў, то «піша алеем». Часцей за ўсё робіць гэта па-тэатральнаму кідка і маляўніча, хоць рэцыдывы «Салдата...» зрэдку адчуваюцца і тут.

...Яны занялі месца недзе наверсе, сенатары, якім «сама гісторыя», на іх думку, даручыла судзіць рэвалюцыю ў Расіі. Чорныя, як груганы, рэспектабельныя, поўныя павагі да сябе і да сваіх «абавязкаў», яны ўсё ж яшчэ і... жывыя людзі. Ад плаката, пра які гаварылася ў папярэднім абзацы, рэжысёр пераходзіць да псіхалагічнай «разведкі» — а што ж гэта за асобы такія, Лі Авермен, Стэрлінг, Уалкот, Кінг і Нельсан? Ім прыемна быць суддзямі. Яны ведаюць, што працэс, у якім яны ўдзельнічаюць, прынясе ім поспех, падштурхне на лесвіцы кар'еры, упіша імёны ў «летапіс стагоддзя». Лі Авермен, як яго іграе Л. Рахленка, часам нават спрабуе для самога сябе высветліць, што ж там адбылося, у Піцеры і Маскве, але як толькі ў залу пасяджэння прабіваецца праўда аб бальшавіках і рэвалюцыі, ён пачынае злавацца. Бо яе, праўду, трэба патапіць. Інакш — правал «камісіі Авермена». Зацятыя ў службовым жаданні праз гэты працэс «крочыць вышэй», Нельсан і Кінг у выкананні Ю. Шумакова і П. Дубашынскага нібы спаборнічаюць паміж сабой і з упартасцю катаў «здабываюць» у сведак «доказы» і потым нахабна іх інтэрпрэтуюць, адрасуючы сваю паліцэйскую красамоўнасць не толькі зале, а і стэнаграфісткам, нават галоўным чынам ім — для пратаколу. Каб там, у Белым доме, на такім спакуслівым для іх «версе», маглі пераканацца, што маюць спецыялістаў па выкрыцці рэвалюцыйных ідэй і іх носьбітаў. Сыграна гэта ў строгім знешнім артыстычным малюнку і даходзіць да гледача. Затое застылымі ў дзяжурным гарнітуры сенатараў выглядаюць Стэрлінг і Уалкот (артысты М. Федароўскі і С. Бірыла) — такіх у камісіі магло быць і больш, і менш: на справу яны не ўплываюць. Відаць, рэжысёр абмежаваў сябе тым, што здолеў «ажывіць» тры фігуры сенатараў, а двум не даў актыўных сцэнічных задач.

Тое ж атрымалася ў В. Раеўскага і са сведкамі на працэсе. Некаторыя з іх успрымаюцца як звычайныя шаржы, як персанажы, пазбаўленыя хоць прыблізнага праўдападабенства і жыццёвага грунту: ідучы за рэакцыяй глядзельнай залы, «смешаць» публіку П. Пекур і Г. Аўсянікаў, збіваюцца на тое ж У. Дзядзюшка і З. Браварская. Таму вобразы Сайманса, Леанарда, Сіманса, Біцці, якія не маюць паміж сабой нічога агульнага, выглядаюць аднолькава «аблегчанымі» варыянтамі тых персанажаў, якія маглі б дзейнічаць у спектаклі. Асабліва Біцці, для якой выканаўца ролі знайшла толькі адну фарбу — экстравагантную лёгкадумнасць, хоць у сапраўднасці ёй уласціва і дасціпнасць, і непасрэднае жаданне гаварыць «толькі праўду», і спроба зразумець, што ж тут, у сенацкай камісіі, адбываецца. Чыста ілюстрацыйным момантам застаецца з'яўленне перад амерыканцамі Брэшка-Брашкоўскай, і Л. Ржэцкая сваёй ігрой толькі пацвярджае хрэстаматыйна вядомую характарыстыку гэтай «бабулі рускай рэвалюцыі», якой хацелі б паказаць Брэшку эсэры. Кожная паасобку з гэтых роляў выконваецца нават па-майстэрску, так, як гэта ўмеюць рабіць у эпізодах сапраўдныя акцёры-купалаўцы. А разам узятыя персанажы пераносяць акцэнт трохі «не туды» — замест таго, каб старацца скампраметаваць, хай сабе на падставе выпадковых і сапраўды смешных «факцікаў», рэвалюцыю, яны ў зададзена карыкатурнай форме кампраметуюць сябе. Так павінна атрымлівацца, у спектаклі ж гэтае «так» дэманструецца. І нечаканы для сенатараў пасаж са сведкай Біцці з'яўляецца нечаканым і для нас, гледачоў. Імкненне В. Раеўскага быць гранічна яркім у кожным эпізодзе, відаць, супадае з жаданнем выканаўцаў здабыць і з самай маленькай ролі максімум эфекту. Інтарэсы агульнага стылявога ключа трацяць ад гэтага...

Сярод станоўчых герояў прыемна радуе палкоўнік Робінс у выкананні В. Белахвосціка. Ён, здаецца, цяпер і тут, слухаючы паказанні сведкаў і тырады сенатараў, прыходзіць да пераканання, што павінен прысвяціць сваё далейшае жыццё змаганню за тое, каб «амерыканскія хлопцы і рускія сяляне не забівалі адзін аднаго з-за памылковай ацэнкі становішча». Сталаму палітыку і вайсковаму чалавеку гэта даецца не так лёгка, і акцёр паказвае выспяванне ў Робінсе мужнасці думкі. Побач з гэтым персанажам дэкламацыйна гучаць сцэнічныя маналогі Джона Рыда (А. Мазлоўскі), Рыса Вільямса (Б. Уладамірскі) і Луізы Браент (М. Захарэвіч). Акцёры іграюць вынік, хаця кожная палітычная акцыя, у якой бралі ўдзел іх героі, была прыступкай у поступе да грамадзянскага подзвігу. Чамусьці ў спектаклі не прагучаў матыў, якім кіруюцца гэтыя людзі, скарыстоўваючы трыбуну камісіі для таго, каб яшчэ раз узважыць свае перакананні і абвясціць іх перад вялікай аўдыторыяй. Магчыма, так атрымліваецца яшчэ і таму, што той жа, скажам, Рыд на сцэне даецца як мітынговы прамоўца «з плакатаў», а ён жа быў яшчэ і зацікаўленым даследчыкам рэвалюцыйнага механізму.

Такім чынам, шчыра кажучы, спектакль трымае ўвагу залы не так адзінствам мастацкага вырашэння, як па-майстэрску выконваемымі эцюдамі-цытатамі. Іх звязвае ў адно грамадзянская думка рэжысёра. Пэўная ж стракатасць стылявых сродкаў ідзе пераважна ад акцёрскіх прыёмаў раскрыцця персанажаў, прыёмаў «аўтаномнага карыстання».

Праўда, ёсць яшчэ адна дзеючая асоба, ад якой многае залежыць у такім відовішчы: гэта — Вядучы. Хто ён такі? Тыя, каму давялося глядзець ленінградскі спектакль «Праўду...», помняць, што там вядомы артыст К. Лаўроў іграе самога сябе, і яго Вядучага ўспрымаеш як прадстаўніка таўстаногаўскага тэатра, тэатра, які і на гэты раз працягвае дыспут аб сапраўднай цане мужнасці чалавека ў вострых грамадскіх канфліктах. У рэпліках Вядучага ёсць, прынамсі, рэха дыскусій, водгулле спрэчак, што вядуцца і ў іншых спектаклях Г. Таўстаногава. У прыватнасці, пра мастацтва, як зброю ў ідэалагічнай барацьбе. Чытаючы тэкст драмы Д. Аля, думаеш, што гэта — гісторык, які на нашых вачах гартае старонкі мінулага і эмацыянальна каменціруе іх, пашыраючы нашы веды. У купалаўцаў Вядучы — не асоба «ад тэатра» і не «гісторык» з ліку гледачоў, не «адзін з нас». Артысты В. Тарасаў і А. Мілаванаў хутчэй за ўсё нагадваюць нам фігуру тэлевізійнага каментатара, які час ад часу прадстаўляе публіцы дзеючых асоб і дадае ад сябе публіцыстычныя выказванні адносна гістарычных персанажаў і фактаў. Робіць гэта з унутраным напалам, катэгарычна і «прыгожа», быццам яму трэба кагосьці з нас у зале пераконваць нанава і нават... абвяргаць. А ісціны ў вуснах Вядучага агульнавядомыя. Відаць, не ўсе перамены ў тэксце ролі, што былі ўнесены тэатрам, пайшлі на карысць выканаўцам гэтай ролі: іх «напал» застаўся ад фігуры «гісторыка» або асобы «ад тэатра», а роля абмежавана абавязкамі тэлекаментатара.

Таму і гістарычныя асацыяцыі ў выглядзе выходзячых на сцэну лейтэнанта Шміта і пісьменніка Дэфо, Георгія Дзмітрава і Максіміліяна Рабесп'ера ўспрымаюцца выпадковымі. Тэлекаментатар мог выклікаць і іншыя постаці, скажам Джардана Бруна або Кастуся Каліноўскага. Калі выразны характар «гісторыка» ці асобы «ад тэатра» апраўдвае пэўную сістэму ў падборы такіх ілюстрацый, то расплывістая фігура Вядучага «наогул», якой успрымаецца яна ў выкананні В. Тарасава і А. Мілаванава, толькі падкрэсліла тут і сапраўды адвольную фантазію драматурга Д. Аля. Гэта робіць з «гістарычных персанажаў» нешта накшталт «жывых цытат», узятых з кніг, якія сёння выпадкова трапілі пад руку або ўсплылі ў памяці Вядучага. І хоць, напрыклад, эпізод з Дзімітравым, пастаўлены В. Раеўскім з выдатным рэжысёрскім тэмпераментам і размахам, а кароценькая сцэна з Аляксандрам Ульянавым узрушае дакладным малюнкам і ваяўнічым пафасам, усё ж застаецца ўражанне, што калі б тэатр захацеў, ён мог бы адмовіцца ад іх або, наадварот, паказаць яшчэ і тых, хто выкраслены з тэксту Д. Аля.

А спектакль, як кажуць у такіх выпадках, глядзіцца з цікавасцю і часта з хваляваннем. Спектакль, як мы сказалі ў пачатку, адбыўся. Чаму ж тады мы гаворым так падрабязна пра творчыя пралікі? Пажадана, каб В. Раеўскі на сваёй практыцы глыбей зразумеў, у чым яго сіла і ў чым ён яшчэ не моцна стаіць на нагах. Яго вабіць любая магчымасць даць пастановачны эфект (тут ён дасягае гармоніі ў мізансцэніроўцы, пластычным малюнку, светлавой партытуры, музыцы і паўзах), апраўданы ў гэтым месцы і гэтымі персанажамі. З такіх эфектаў ён потым складае агульную карціну. І сляды мазаічнасці яго цікавейшых шуканняў застаюцца. Тыя п'есы, якія яму даводзіцца пакуль што ставіць, патураюць чыста пастановачнай схільнасці рэжысёрскага таленту. І такая індывідуальнасць мастака ў трупе купалаўцаў, зразумела, патрэбная. А што калі В. Раеўскі паспрабуе свае сілы яшчэ і ў псіхалагічнай бытавой драме або камедыі нораваў? Неабходнасць паглыбляцца ў душэўны свет герояў, звязаных не толькі «службова» ці як тое вызначыў лёс гісторыі, а яшчэ і агульным інтарэсам, сямейнымі ланцугамі, абавязкам перад маральным законам і г. д., можа адкрыць у рэжысёры цікавыя здольнасці даследчыка чалавечых характараў. На нашу думку, ён не мае патрэбы абмяжоўваць свой творчы дыяпазон і рабіць у тэатры толькі тое і толькі так, як яго вучыў Ю. Любімаў.

Спектакль сведчыць пра тое, што В. Раеўскі пераадольвае натуральны ў мастацтве перыяд вучнёўства. Давайце параўнаем гэта з вершаскладаннем. Спачатку малады паэт, бывае, бачыць першы свой абавязак у тым, каб незвычайнай метафарай і дзёрзкім радком «заявіць» сябе. Так было ў В. Раеўскага ў брэхтаўскім «Салдаце...» Рэжысёр дэманстраваў сваю здольнасць паставіць кавалак-эпізод («радок»), расквеціць сцэну выразным рытмам і нечаканай характэрнасцю. У «Праўдзе...» ён упэўнена стварае завершаныя «строфы» — усё, што звязана з сенатарамі на чале з Лі Аверменам, свабодныя выхады за межы сцэнічнай пляцоўкі ў залу, калі мы, захопленыя гэтым гледачы, робімся больш чым сведкамі «мінулага», а і як бы ўдзельнікамі відовішча (гэта ж «на нас» скіравалі ліхтары штурмавікі, гэта ж «нас» пільнуюць жандары!), і іншыя моманты пастаноўкі па-мастацку мэтанакіраваныя на прадмет даследавання. Цяпер перад рэжысёрам задача вышэйшая: яму прадстаіць даказаць, што ён умее «мысліць спектаклем» і раскрываць пафас твора як еднасць і ў стылявым сплаве. Парады ў такіх выпадках могуць быць памылковымі, таму мы прыгадаем словы эксперыментатара У. Меерхольда: «...перш чым пускаць у ход фантазію, перш чым пачынаць што-небудзь ствараць, спачатку варта зацугляць сваю фантазію, бо самае небяспечнае, калі яна сваволіць». Капрызнага свавольства ў «Праўдзе...» ужо значна менш. І трэба спадзявацца, што гэта прадыктавана тым, што В. Раеўскі паспяхова вучыцца вызначаць унутрана кіруючы план відовішча ў рэчышчы аўтарскай задумы.

ца, ці падабаецца мне творчасць аднаго пісьменніка, апошняя кніга якога раскрытыкавана некаторымі крытыкамі.

Не падымаючы галавы ад журнала, пазіраю ў той бок. Сцэнарый, відаць, быў прадуманы загадзя: чакалася, што я адкажу на гэтае пытанне адмоўна. Спакойна гавару:

— Падабаецца.

«Лабачэўскі» штурхнуў локцем суседа і, павярнуўшыся, падміргнуў таварышам:

— А вось у газетах...

— Ведаю. Чытаў. Ну і што?

— Дык вельмі ўжо крытыкуюць. Каму ж верыць?

— А вы як думаеце?

— Я... — разгубіўся хлапец. — Я не ведаю... Не чытаў...

Клас грымнуў рогатам. Адзін — нуль у маю карысць.

— Ну, чаго? — рынуўся на дапамогу таварышу «Лабачэўскі № 2».— Што з таго, што не чытаў? Тут пытанне прынцыповае: варта верыць крытыцы ці не?

— А вы як думаеце?

— Я думаю, што крытык — прафесіянал, а мы дылетанты, спрачацца з ім нам не пад сілу, а таму трэба згаджацца. Не без падстаў жа ён крытыкуе, ці не так?

— Што ты вярзеш? — крычыць тоненькая чарнявая дзяўчына ў залачоных акулярах. — А самому табе думаць не паложана?

— Ну, ты!

— Ну, я!— дзяўчына ўскінулася і паласнула яго позіркам. — Абывацель! Трус!

Клас загудзеў.

«Пара ўмяшацца», — падумаў я. Счакаў зручнага моманту і цісканў на тармазы:

— Наколькі я вас зразумеў, вы паставілі пад сумненне маю здольнасць самастойна мысліць, так? А калі не здольнасць мысліць, дык здольнасць гаварыць тое, што думаю?

— Ды не, што вы! — замармытаў канапаты. — У мяне нават і ў думках не было! Я проста так... Даруйце, калі ласка!

— Не, не дарую! Абраз не дарую нікому. І вам не раю.

Вочы ў дзяўчат агромністыя, трывожныя, і ў іх — спагада. Мне. І ў вачах хлопцаў—няёмкасць. Так. Два — нуль. У маю карысць.

— Ну, а наконт творчасці пісьменніка мы пагутарым у наступны раз, толькі ўсур'ёз, як след падрыхтаваўшыся. Вось гэта і будзе вам заданне на дом. Прачытаць твор і крытычныя артыкулы — апошнія асабліва ўважліва, там ёсць вельмі слушныя заўвагі. Абмяркуем і, калі што, паспрачаемся. І наконт ролі крытыкі таксама.

**30 кастрычніка.**

«Акаўцы» справакавалі мяне, «Б» і «В» я сам спрабаваў справакаваць на нешта падобнае — не атрымалася. Чорт яго ведае, чаму не атрымалася: мабыць, для гэтага патрэбны нейкі настрой класа, а я, пэўна, не змог яго выклікаць. Звесткі аб маючым адбыцца ў 10 «А» дыспуце не выклікалі ніякай цікавасці ў такіх жа «матэматыкаў» з «Б», хоць, звычайна, «бэкаўцы» спрачаюцца ахвотна і сур'ёзна. Ну, а «вэкаўцы», па-мойму, увогуле не разабраліся, пра што я ім гаварыў, куды цягнуў: клас быў нечым узрушаны, мне ніяк не ўдавалася ўзяць яго ў рукі. Здаецца, нават крыкнуў на некага.

Прыйдзецца, мабыць, зрабіць так: правесці ў гэтых класах урокі пазакласнага чытання і пастарацца падабраць ім што-небудзь адпаведнае. «Вэкаўцам» можна, бадай, прапанаваць «Дануту» А. Карпюка, гэта павінна іх зачапіць, а матэматыкам... Ці не прадаставіць ім самастойнасць? Скажам, кожны мае права выбраць сабе любы твор любога беларускага пісьменніка 60-х гадоў і зрабіць кароценькі даклад. Здаецца, можна будзе забіць двух зайцоў адразу: папершае, гэта добры стымул для чытання сучаснай беларускай літаратуры, а, па-другое, можна неяк пазнаёміцца з іх густамі... А там ужо як-небудзь знойдзем, аб чым пагутарыць і паспрачацца. Трэба будзе паспрабаваць.

**3 лістапада.**

Зноў праклятая бяссонніца — цяпер ужо быццам без дай прычыны. Скончылася першая чвэрць. Даволі для мяне цяжкая, псіхалагічна цяжкая. Прыйшлося трохі і сябе паламаць, і вучняў, павыкідваць на сметнік многія старыя, дзесяцігоддзямі выпрацаваныя прыёмы. А можа, яно і к лепшаму? Бо мне ўжо досыць нудна было ў старым амплуа, а тут вабіць навізна.

І вось варушышся, грабеш, крочыш па невядомай дарозе — а ці туды яна вядзе, тая дарога? Хто ж яе ведае. А ўсё ідзеш. Трэба ісці.

*НОВЫЯ ПЕРАКЛАДЫ*

Іван ДАВЫДКАЎ

## СОЛЬ

Капальня солі. Духата цяжкая.
Па далонях раз'едзеных сцякае,
гарчыць на вуснах ліпкі пот.
Рыдлёўкі бразгаюць. Вісіць смуга
густая.
І соль гарой халоднай вырастае,
плыве, як ветразь, з цемрадзі
сляпой.

Ці не была яна азёрнай ленай
і хмаркаю над радыёантэнай,
маўклівая і белая, як снег?
Ці не была яна сном шэрай птушкі
і шэпатам, што вінаграднік гушкаў,
перш чым забрала мой спакой
і смех?

О, ты гарыш у нас, спякотны
поўдзень,
І ўсё, чым быў наш летні дзень
напоўнен,
дымком сплывае ў выцвілы зеніт.
І смага душыць. І глыбока ў сэрцы
забвеннем і трывогай застаецца
гаркота солі. І песняю звініць.

## ЦЫГАНСКІ ПОЛАГ

І яшчэ адно падарожжа да голаду
і нястачы!
Хто верацёны купіць?
Хто праўдзе імі радасць?
Маўчаць цыкады ў кустах.
На білах ліхтар матляецца.
І полаг прапалілі пагляды
дзіцячыя.
І за калёсамі ўслед, як сабака,
гоніцца страх.

Яны не шукалі начлегу ў доме
пасярод поля.
Прыдарожныя дрэвы для іх —
і страха, і сцяна.
Падкурчыўшы ногі, селі вячэраць
паволі,
распраналі цыбулю — і смачна
храбусцела яна.

Потым унгліся.
Толькі цыганка, перагнуўшыся
цераз білы,
кошык пляла — з цемры і з
лазняку.
Украдзены певень
так закукарэкаў і залопаў
крыллем,
што з берагу жабы, як камні,
плюхнуліся ў раку.

Верацёншчык нож свой тачыў,
пагладжваючы на далоні.
Чмыхалі коні
на аплеценым цемрай і ажынай
узмежку.
А сабакі над вогнішчам
калыкалі свае языкі—чырвоныя,
як галавешкі —
каб агонь уваскрэс і надзея не
згасла.

## УЦЁКІ

Ачмурэлы ад грому матораў
і электрычак,
ты пачынаеш марыць урэшце
рэшт,
каб убачыць воблака і жменю
ранішніх знічак
не на экране, а ў калодзежы або
на завадзі рэк,
каб ісці басаніж, бадзяцца па
перавалах,
калі сырадой
б'е ў звонкае днішча вядра,
а са студні, салодкая,
пераліваецца
у жбаны вясковыя патухаючая
зара.
Але гэта на міг.
Як ласо, цябе гальштук назад
вяртае.
Тэлефонная трубка, як дзяцел,
выклёўвае твой спакой.
Пыласос высмоктвае ўсе твае
мары тайныя,
і ты рады выцвіламу кіліму, што
ўпрыгожвае твой пакой.
І няма ні лясоў, ні кашары.
Жураўель над студняй не рыпне.
Вецер кменам і кропам не дыхне
табе ўслед.
...На падлозе — як мёртвая
рыбіна —
святлее сынаў след.

## АНТЫЛЬСКІЯ АСТРАВЫ

*Ал. МУРАТАВУ*

Хіба гэта Антылы?
Хіба гэта атэль з верандаю белай,
дзе новыя сны і пачуцці
прыходзяць да цябе па начах?
Над пальмамі дзень патухае
нясмела,
сплывае па кашулі, што халаднее
ў цябе на плячах.

Ты далягляд хапаеш, як нітку
змея папяровага,
раскалыхваеш неба, каб
апусціць ніжэй,
і твая зямля — далёкая—і самая
чароўная
падступае бліжэй.

І ты бачыш—не так і далёка
да дому,
і гэты светлы бераг для цябе
не чужы,
дзе, нібыта неонавая,
вымалачаная салома
свеціцца, растрэсеная ў старога
шляху на віражы.

Калі ж ты нахілішся трохі
з балкона,
пачуеш водар вясковага хлеба
і плёскат роднай ракі,
і ўбачыш, як на начлег гоняць
коней,
як парэпанымі пяткамі іх б'юць
па баках хлапчукі.

Касцёр каля сажалкі абмацвае
цемру чырвонымі пальцамі.
Валюхаюцца качкі на кульгавых
нагах сваіх,
піскнявым сузор'ем па двары
рассыпаюцца,
і лемех забытага плуга, як месяц,
свеціцца сярод іх.

Пачуўшы іх шум, брат-інвалід
грукае мыліцай
і поўнымі ночы вачамі ўзіраецца
ў далячынь.
...Ты бачыш: пальма закрыць
лістамі паўнеба сіліцца,
але братавага твара не заслоніш
нічым.

Цякуць трапічныя рэкі.
Пульсуюць іх сінія вены прывычна.
А табе сніцца снег далёкіх
Балкан.
І боль і любоў растуць.
Паважліваe
іх лупа вялізарная—акіян.

## БУРШТЫНАВЫЯ КАРАЛІ

На шыі тваёй—каралі з бурштыну.
Лясы ў іх спяваюць, і вёслы,
і невады,
і след твой, поўны расы і сіні,
і мокрая прыстань каля самай
вады.

Мы, згубленыя навекі, цяпер
знайшліся —
дзве бурштынавыя слязы на
пустых берагах,
Мы, як старыя літоўскія сосны,
памерці разам сышліся
і балтыйская бездань будзе наш
саркафаг.

О, растрачаныя пачуцці, вы
ўваскрэслі сягоння!
Мора нас абдымае, дзюны моўчкі
ўбок адыйшлі...
Ці засвецімся некалі мы ў
рыбацкіх далонях
жменькай бурштыну? Ці станем
проста жменькай зямлі?

Ці ўспыхнем мы над плячамі,
вылепленымі з пены,
над пацалункам, што прысей
матыльком на белых грудзях,
ці нам сокал вячэрні крылом
сваім вострым імгненна
перарэжа няпройдзены шлях?

Цячэ Вілія, бярозамі ўкрытая.
Ні голасу, ні дыхання на зямлі
і ўгары.
У далонях тваіх, крылом
жаўруковым збітая,
ціха літоўская зорка гарыць.

Пераклаў з балгарскай мовы
Генадзь БУРАЎКІН.

*З пошты ЛіМа*

## ДЗЕЦІ БУДУЦЬ УДЗЯЧНЫЯ

У першамайскім нумары «Літаратуры і мастацтва» з вялікай радасцю прачытала ўрывак з рамана беларускага пісьменніка Міхася Машары, у якім упамінаецца пра Гая і яго 3-ці конны корпус. Сардэчнае Вам дзякуй і рускі паклон зямлі Вашай за добрую справу, за добры пачатак.

Пра героя грамадзянскай вайны, старэйшага камуніста, слаўнага савецкага палкаводца і вучонага Г. Д. Гая напісана нямала аповесцей, нарысаў, апавяданняў, але, на жаль, сярод аўтараў гэтых твораў амаль няма беларусаў. Мне часта думаецца, чаму пісьменнікі і журналісты Вашай рэспублікі да гэтага часу не пішуць пра Гая? Ён жа на чале 3-га коннага корпуса многа зрабіў для таго, каб вызваліць Беларусь ад белапольскіх паноў. Хіба няма ўжо былых удзельнікаў паходу «на Варшаву», хіба не захаваліся дакументы аб тых легендарных падзеях?

...Наша падрастаючае пакаленне павінна знаць пра гераічную дзейнасць Гая, яго цікавае і яркае жыццё. Але пакуль што я не ведаю ні адной кніжкі, якая была б напісана спецыяльна для іх. Кнігі А. Дунаеўскага «Па слядах Гая», Г. Айрапецяна «Легендарны Гай» па змесце, мове і стылю, на маю думку, цяжкаватыя для дзяцей.

Буду шчыра ўдзячна рэдакцыі Вашай газеты, калі Вы натхніце і падтрымаеце дзіцячых пісьменнікаў Савецкай Беларусі на напісанне аповесці ці рамана пра Гая і яго баявых саратнікаў.

З удзячнасцю да Вас

Наталля ГАЙ-РУМЯНЦАВА.

г. Разань.

## КАЛІ НА КНІГІ СПАТЫКАЮЦЦА...

У нашым пасёлку Акцябрскі шмат аматараў кнігі. Сотні рабочых, калгаснікаў, служачых маюць свае бібліятэкі. Іх паліцы пастаянна папаўняюцца навінкамі.

Кожны дзень многа пакупнікоў у мясцовай кнігарні — адзінай у раёне. Прадаўцы Тамара Уладзіміраўна і Васіль Андрэевіч Дайнекі стараюцца як мага лепш задаволіць попыт людзей. Але кепска, што ў кнігарні вельмі цесна. Тут каля паліц і стэндаў на падлозе нагрувашчана многа кніг, бо паставіць іх няма куды. Наспела патрэба або пабудаваць новую кнігарню. або падабраць для яе іншае, больш прасторнае памяшканне.

І. ВЕРАС.



Адна з лепшых мазаік. Тонкасці работы майстроў даводзіцца проста здзіўляцца...

Юрый ЯКІМОВІЧ

# СУСТРЭЧЫ З АДВЕЧНЫМ

*ДАРОЖНЫЯ НАТАТКІ*

МІРНА пастукваюць колы вагона. Я і фатограф Мікалай Дзіско не адрываемся ад акна, любуемся вясновымі пейзажамі. А думаем, мусіць, пра адно. Што давядзецца ўбачыць у гэтую паездку? З якімі скарбамі гісторыі і культуры пашанцуе сустрэцца тварам у твар?

...Першы прыпынак у нашым маршруце — Баранавічы. Дзень выдаўся сонечны, празрысты, нібы ўмыты першымі вясновымі дажджамі.

Баранавічы значна выраслі ў апошнія гады. Гэта ўтульны і прывабны горад, з шырокімі вуліцамі, акуратнымі паркамі і скверыкамі. Старасветчыны, у тым сэнсе слова, у якім разумелі яе мы, архітэктары, тут амаль няма.



Баранавіцкі Пакроўскі сабор... Той самы, у якім мазаікі.

Ідзём па ціхай і вузкай вулачцы доўга. І вось перад намі ўзнікае ён. Вялікі, сініі-сіні сярод бірузовага неба і голых яшчэ дрэў. Пакроўскі сабор...

Настаяцель—рухавы, хоць і стары ўжо чалавек, правёў нас у сабор, дазволіў сфатаграфаваць інтэр'ер будынка і расказаў шмат цікавага з гісторыі гэтага сабора.

Пакроўскі сабор быў пабудаваны ў сярэдзіне 20-х гадоў нашага стагоддзя па праекце архітэктараў Акалонскага і Жаландкоўскага. Сам па сабе сабор мо і не прыцягваў бы такой увагі, калі б не мазаікі. Былі яны прывезены сюды з так званага «Сабора на Пляцы» ў Варшаве, разбуранага па загадзе польскага ўрада. Мазаікі выкананы па эскізах вядомых рускіх мастакоў, сярод якіх былі В. Васняцоў, Н. Бруні, В. Думітрашка, Н. Кошалеў. Мазаікі былі выкананы ў Пецярбургу прыватнай мазаічнай майстэрняй В. Фралова. Выраб смальты для мазаік арганізаваў буйнейшы спецыяліст гэтай справы С. Пятухоў. Мазаікі набіраліся ў Пецярбургу метадам адваротнага набору, заліваліся па частках цэментам і перавозіліся на месца.

Мы доўга, моўчкі любаваліся філіграннай работай майстроў, віртуозным валоданнем тэхнікай. Мазаікі рабілі ўражанне велічы і манументальнасці.

□

З гаворкі пра мазаікі Пакроўскага сабора ў нас і пачалася размова з гэтым субяседнікам.

Мы сустрэліся з ім у холе гасцініцы. Ён быў ужо немалады, сярэдняга росту, каржакаваты. Самаўпэўнены позірк выдаваў у ім чалавека, які любіць лічыцца толькі са сваёй думкай.

— Ну што асаблівага вы бачыце ў гэтых помніках дойлідства? — наступаў ён. — Цэрквы і касцёлы мелі сваё значэнне ў мінулым.

Я ж гаварыў аб тым, што будынкі касцёлаў і цэркваў, сінагог не трэба змешваць з праклятым «опіумам для народа». Амаль усе яны — цікавыя помнікі дойлідства, своеасаблівае адлюстраванне нацыянальнага быту, культуры, эстэтычнага густу нашых продкаў-будаўнікоў. У гэтых пабудовах выявіўся вялікі геній народа-дойліда.

Субяседнік іранічна хмыкнуў...

Я развіваў сваю думку. Так, сучасным гарадам трэба расці. Але ж ці перашкаджаюць гэтаму развіццю тыя нешматлікія помнікі дойлідства, якія захавала нам гісторыя, якія ўцалелі пасля ўсіх войнаў і разбурэнняў? Трэба іх зберагчы, як памяць аб мінулым, як рэчавы доказ нашай старажытнай культуры. Напомніў і пра той агляд-конкурс, які правяла «Литературная газета» і Саюз архітэктараў СССР, конкурс на лепшае спалучэнне сучасных збудаванняў з помнікамі архітэктуры, конкурс, на якім лепшыя праекты атрымалі прэміі і дыпломы. А раз так, то пытанні эканомікі павінны адысці на другі план...

— Ах, вось як! На другі план... Толькі захавай, то з нас ужо будуць патрабаваць, каб і дагледалі, і ўтрымлівалі, і рамантавалі. А дзе набрацца тых грошай? Пра гэта вы падумалі? — субяседнік глядзеў на мяне, як пераможца: маўляў, даканаў сваімі довадамі.

Мне расхацелася працягваць гаворку. Так, на ўсё адразу грошай не хопіць. Але падрыхтаваўшы найбольш значныя помнікі для агляду турыстамі, прыстасаваўшы некаторыя да сучасных патрэб, можна будзе мець сякія-такія сродкі. А пусціўшы іх, гэтыя сродкі, на падрыхтоўку іншых помнікаў, можна будзе...

Субяседнік іранічна ківаў галавою.

Разышліся кожны пры сваіх думках.

□

Івацэвічы — нейкі прасветлены, нібы абноўлены гарадок.

Мы ідзём па адной са сцяжынак і разважаем, ад чаго ўзнікла назва гарадка. Ці то ад іваў-ракіт, якіх багата ў наваколлі, ці ад прозвішча таго пана Іванцэвіча, што некалі гаспадарыў на гэтай зямлі.

У Івацэвічах ніякіх старых пабудоў няма, і мы адразу паехалі ў Косава. Гэты зусім невялікі пасёлак уразіў мяне сваёй маляўнічасцю. Зайшлі да старшыні выканкома, ветлівага і дабразычлівага чалавека. Ён даў нам праважатую, сухарлявую бабулю, і параіў зайсці спачатку ў школу. Бабуля пусцілася па вуліцы так шпарка, што мы, маладыя хлопцы, ледзь паспявалі за ёю. Прыпынілася яна каля школы.

Мы ўвайшлі ў кабінет дырэктара і адразу былі ўражаны: дырэктар, Якаў Дзмітрыевіч Янчанка, стаяў перад мальбертам і пісаў. У яго не было правай рукі — пэўна страціў у час вайны. Пісаў левай, мазкі былі ўпэўненыя, энергічныя...

Усюды ў школе вісяць работы дырэктара. Больш за ўсё гэта матывы з работ вядомых класічных майстроў жывапісу, шмат і сваіх эцюдаў.

Якаў Дзмітрыевіч паказаў нам альбом, прысвечаны гісторыі Косава. Склалі яго вучні, члены гісторыка-краязнаўчага гуртка. Можа і не ўсё ў тым альбоме зроблена дасканала, але ўжо тое, што дзеці звяртаюцца да гісторыі бацькаўшчыны, выклікае павагу.

Гутарым з дырэктарам пра Косава доўга. Субяседнік ён цікавы, любоў яго да родных мясцін непадробная.

На наступны дзень мы зноў сустрэліся са старшынёй выканкома. Нягледзячы на сваю занятасць, ён сам павёў нас паказваць помнікі дойлідства горада. Потым да нас далучылася бабка Мар'я, касцёльная ключніца.

Косаўскі касцёл не вельмі стары (пабудаваны ў мінулым стагоддзі), але даволі цікавы. Скляпенні разгароджаны невысокімі паўцыркульнымі аркамі, якія распісаны няхітрым арнаментам. Аркі пераходзяць у пілястры, і ўсё гэта дапаўняецца амаль цыліндрычнымі неагатычнымі вокнамі. У іх дзе-нідзе як памяць аб былой прыгажосці захаваліся маленькія асколачкі каляровага шкла.

Фасады пабудовы яшчэ ў большай ступені, чым інтэр'ер, маюць рысы неаготыкі. Кантрафорсы, вімперг, ружа, стральчатыя вокны і іншыя элементы, якія былі характэрны для канструктыўнай готыкі сярэднявечча, у XIX стагоддзі становяцца ўсяго толькі дэкаратыўным прыёмам. Бачыш, разумееш, што ўсё гэта тут не больш як тэатральная бутафорыя, але міжволі любуешся, як па-мастацку ўсё зроблена!

Ад касцёла накіраваліся да царквы Антонія. Яна пабудавана ў 60-х гадах мінулага стагоддзя. Стаіць сярод вялікіх дрэў у самым цэнтры Косава, пры скрыжаванні чатырох вуліц — нібы шматкаляровы лубачны малюнак. Царква — самая звычайная і тыповая, такіх шмат на Беларусі. Але як многа значыць удала выбраць месца для пабудовы, зрабіць добрае акружэнне! Пры такім падыходзе звычайная хата будзе выглядаць, як архітэктурны шэдэўр.

Падвечар пахаладала. Сыры, брызготлівы вецер з дажджом праймаюць да дрыжыкаў. Пaціху шкандыбаем па вузенькай сцежцы, згінаючыся пад цяжарам апаратуры і розных папак і сумак. Ідзём у свой імправізаваны «гатэль» — канцылярыю дзіцячага дома. Тут цэлыя апартаменты: два пакоі, веранда. І, галоўнае, можна прапаліць у грубцы...

Як добра халодным вечарам сядзець у цёплай хаце! За вокнамі цёмна, не відаць ні адной зоркі.

Хутка распранаемся і валімся на канапку. Крыху адлежаўшыся, устаем і робім няхітрае прыстасаванне з крэслаў і паленняў, каб прасушыць вопратку і абутак.

Потым Мікалай лезе пад коўдру і шалпоча там сваімі фотаплёнкамі. Я дастаю свой паходны дзённік і саджуся пісаць. Трэба сабрацца з думкамі, запісаць ураджанні пра тое, што бачылі. Не, не ўсё ўбачанае варта ўвагі «Звода помнікаў гісторыі і культуры Беларускай ССР».

А печ дыхае цеплынёй. Стома разморвае і змежвае павекі...

Заўтра зноў цэлы дзень бадзяцца па яшчэ мокрых дарогах, прамочваць ногі. Але тое, што мы ўбачым, кампенсуе ўсе нягоды. Дык хай жа будзе блаславенна вялікае мастацтва!

□

Вёска Бялавічы кіламетраў за пяць ад Косава. Старшыня выканкома памог нам транспартам. Нас вязе на Орліку фурман — стары, кульгавы дзядзька Рыгор.

Дзянёк выдаўся благі: змрочна, з хмар цярусіць халодны дождж. Мы з Мікалаем тулімся адзін да аднаго. Але план ёсць план і яго трэба выконваць. Падрыгвае пад намі вазок, завалены саломай.

Орлік плёўся лянiва і фурман час ад часу «частаваў» яго то пугаю, то сваёю кульбаю. Атрыманага «зараду» хапала на некалькі метраў, потым конік зноў пераходзіў на задумлівы крок.

Мы з Мікалаем дрыжым і ўспамінаем нядобрымі словамі тую царкву, дзеля якой мы едзем у гэткае надвор'е. Толькі дзядзька Рыгор не траціць гумору, забаўляе нас вясковымі жартамі і байкамі.

У Бялавічах пайшлі адаграваецца ў першую ж хату. Разгаварыліся з гаспадарамі. Яны расказалі, што некалі на тутэйшай царкве вісела ахоўная шыльда, але не так даўно прыкацілі нейкія двое на машыне, садралі шыльду, і, як пішуць у дэтэктыўных раманах, зніклі ў невядомым кірунку.

Такія расказы мы чулі на Брэстчыне не раз. Па ўсёй Беларусі можна сустрэць справу рук таямнічых асоб — адзінокія шурупы на сценах гістарычных будынкаў. Кажуць, што гэтыя шыльды будуць заменены ледзь не мармуровымі з залатымі літарамі. Можа і так, але мець бы на помніках звычайныя дошкі, праяўляць бы да будынкаў крыху больш, чым звычайна, клопатаў, і было б добра.

...Невялічкая, сціплая па архітэктуры, Ільінская царква стаіць тут аж з 1630 года. Цяжка сказаць, чым яна здзіўляе. Ці то сваёй тонкай, гарманічнай прастатой, ці тым, што стаіць сярод вялікіх векавых дрэў, а можа і тым, што з'яўляецца самай буйнай пабудовай у вёсцы.



Ціха і задуменна стаіць яна сярод старых дрэў, сама пасівелая ад старасці. Бялавічы, Ільінская царква, 1630 г.

Царква абнесена невысокай сценкай бутавай кладкі. Перад ёю — цікавая брама-званіца, ніз якой зроблены з вялікіх каменняў, а верх — з цэглы. Галоўны фасад гэтай званіцы напамінае старажытна-рускія надбрамныя цэрквы, на ім пазначаны год яе пабудовы: 1885.

Інтэр'ер царквы просты і зграбны. Драўляныя сцены патынкаваны і пабелены. На лапатках-брусах невялічкія сты-

лізаваныя капітэлькі. Ля бакавых сцен, насупраць адзін аднаго, стаяць два ківоты з абразамі. Прыглядваемся да абразоў, чытаем дарункавыя надпісы. Абразы нецікавыя...

Мы выйшлі з царквы і накіраваліся да свайго воза. Я думаў аб лёсе маленькай вясковай цэркаўкі. Ці захаваецца гэта 340-гадовая бабулька? А як добра было б, каб яна захавалася да таго часу, як у нас будзе этнаграфічна-архітэктурны музей пад адкрытым небам. Цэркаўка так і просіцца туды...

□

Ружаны...

Калі мы прыехалі ў гэтае дзіўнае месца, было яснае сонечнае надвор'е, і не верылася, што яшчэ ўчора нас даймала непагадзь.

Гістарычны цэнтр Ружан захаваўся даволі добра. Плошча 17 верасня, цэнтральная ў горадзе, уяўляе сабой невялікі скверык. Па баках яго, насупраць адзін аднаго, стаяць касцёл і царква, а таксама цікавы будынак манастыра XVII стагоддзя.

Царква і касцёл па ладзе, па маштабе, нават па нейкім вонкавым выглядзе маюць падобныя рысы. Яны арыентаваны ў працілеглыя бакі, прычым арыентаваны... «наадварот». Нібы знарок нехта памяняў іх месцамі.

А ўсё з-за таго, што гэты Кармяліцкі касцёл святой Тройцы быў пабудаваны

**На якія дарогі і прасёлкі ні паклікала б падарожніка — усюды чакаюць яго сустрэчы з прыгожым, з адвечным, з тым, што называецца культурнай спадчынай народа.**

**Аўтару гэтых нататкаў, архітэктару, супрацоўніку «Звода помнікаў гісторыі і культуры Беларускай ССР» часта даводзіцца хадзіць і ездзіць па рэспубліцы, на месцы знаёміцца з творамі дойлідаў мінулага. Пра адну з паездак па Брэстчыне ён і дзеліцца сваімі ўражаннямі.**

раней царквы амаль на сорак гадоў. Дойлід паставіў яго ля адносна вялікага ўзвышша і пры дапамозе вялікага шмат'яруснага шпіля архітэктурна звязаў гэтае ўзвышша, ансамбль плошчы і той далёкі ўзгорак, дзе стаіць палац Сапегаў... Гэты шпіль як бы выцягвае касцёл з нізіны, ён лунае над наваколлем.

Будынак касцёла вельмі ўдала знойдзены па маштабе, па прапорцыях і, здаецца, замяні яго іншай пабудовай ці пасунь крыху ўбок — усё раптоўна сказіцца, згіне ўся ідэя архітэктурнай дамінанты ансамбля плошчы.

Касцёл быў закладзены яшчэ ў пачатку XVII стагоддзя, але завершаны толькі ў 1636 годзе. Фасады яго вырашаны вельмі строга. Здзіўляе спачатку дробны па маштабе класічны порцік галоўнага ўваходу, ён, здаецца, амаль не гарманіруе з буйнамаштабнымі архітэктурнымі формамі касцёла. Але раптам адчуваеш, што ніякі гэта не пралік, а выдатная знаходка дойліда. Бо малы порцік уваходу ўспрымаецца толькі зблізку і вельмі ажыўляе фасад, робіць яго маштаб чалавечным.

Інтэр'ер касцёла мае, у параўнанні з фасадамі, больш дробны і дэкаратыўны характар, крыжавыя скляпенні з папружнымі і паўцыркульнымі аркамі распісаны фрэскамі і дэкаратыўным арнаментам. Вельмі цікавыя і своеасаблівыя пілястры з грэцкімі фрызамі і барочнымі карнізамі. У апсідзе стаіць велічны алтар у выглядзе барочнага порціка, зроблены з чорнага мармуру.

З касцёла кіруем проста ў Петрапаўлаўскую царкву. Яна пабудавана ў 1675 годзе і была першапачаткова ўніяцкай. Кажуць, што на гэтым месцы раней стаяла драўляная царква. Дарэчы, захавалася вельмі цікавая чаша, якая была зроблена для драўлянай царквы ў 1624 годзе.

Архітэктура царквы мае ўяўны барочны характар. Пабудова ўвенчана вялікай вежай-званіцай. Інтэр'ер царквы даволі просты. Адзіным архітэктурным дэкорам з'яўляюцца сціплыя ўступчатыя пілястры на бакавых сценах. На драўляным, «люстэркавым», скляпенні фрэска, якая была зроблена ў пачатку нашага стагоддзя замест старой, загінуўшай пры пажары ў 1895 годзе. Тады згарэла шмат старых абразоў. Цудам уцалеў толькі адзін абраз богамаці.

У адной з прыбудовак царквы я ўбачыў вялікія дзіры ў сцяне. Як мне растлумачылі, у час першай імперыялістычвай вайны сцяну дзяўблі нямецкія салдаты, шукаючы золата, нібыта тут замураванага. Ніякага золата, канечне, яны не знайшлі, але сляды іх «працы» засталіся, маўкліва напамінаючы аб прыблудных злачынцах.

Сонца схілялася да захаду. Яно стала залаціста-ружовым і пафарбавала ў гэты колер будынкі і дрэвы. Каб гэтыя шчодрыя фарбы пераклаў на музыку, яны прагучалі б велічным харалам.

Мы прайшліся па Ружанах, потым агледзелі могілкі. Яны на вялікім узвышшы. З яго відаць амаль увесь гарадок. Яшчэ і яшчэ раз любуемся высокім шпілем касцёла. Ён нібы лунае над горадам і, здаецца, кідае выклік будучым дойлідам.

На наступны дзень шлях наш пралягаў да велічных руін, якія раней зваліся палацам Сапегаў. Гэты палац быў пабудаваны ў пачатку XVIII стагоддзя, калі



Адкуль бы ні пад'язджаў да Ружан, гэтая спічастая вежа кармяліцкага касцёла кідаецца ў вочы перш за ўсё.

на Беларусі панавала барока, і перароблены ў 1788 годзе, набыўшы характэрныя рысы класіцызму. Стаіць ён на высокім узвышшы і вельмі добра ўспрымаецца, з якой бы часткі горада ні глядзеў.

Сцены напаўразбураны. Вецер па-разбойніцку высвіствае ў гэтых рэштках былой велічы. Сцяна галоўнага фасада, з порцікам і драўляным картушом, стаіць сярод цагляных глыб і калон як своеасаблівы помнік у помніку.

Вусцішна было бачыць гэтае згасанне былой велічы, якая і памірае, уражваючы...

□

Калі мы прыехалі ў Пружаны, надвор'е зноў сапсавалася. Туман... Мы ідзём па горадзе, і дамы паступова выплываюць з імглы.

Выходзім на невялікую плошчу. Яе ансамбль утвораны на супрацьпастаўленні двух рознахарактарных будынкаў — нізка распасцёртых гандлёвых радоў і высокага, кампактнага аб'ёму сабора Аляксандра Неўскага. Абодва яны пабудаваны ў мінулым стагоддзі.

Гандлёвыя рады займаюць амаль усю цэнтральную частку плошчы. Яны з двух бакоў абнесены простай, сціплай па архітэктуры масіўнай аркадай, якая ўтварае своеасаблівыя тэрасы перад будынкам. Рады цікавыя, такіх у Беларусі засталося няшмат.

Будынак сабора ўяўляе сабой трохнефную базіліку з шасцю ўнутранымі слупамі. Скляпенні сярэдняга нефа цыліндрычныя з папружнымі аркамі. У паніжаных бакавых нефах — крыжавыя, а аркі «зацягнуты» зацяжкамі. Аб'ём авальнай апсіды пераходзіць у сферычны купал, на якім зроблены маленькія круглыя вокны.

У Пружанах шмат старых будынкаў. Вельмі зграбныя каменныя і драўляныя дамы з непаўторнымі дэкаратыўнымі арачнымі ўваходамі.

У былым касцёле зараз Дом культуры. І гэта добра. Як кажуць, замест рэлігійнай цемры — святло адукаванасці і культуры. Але цікавы будынак безгустоўна абвешалі вельмі стракатай «нагляднай» агітацыяй, і гэта псуе архітэктурны вобраз будынка.

Дваістае ўражанне застаецца пасля агляду цікавага палаца XVIII—XIX стагоддзяў, так званага дома «Губернія». Будынак стаіць у парку, сярод старых разлапістых дрэў. Ён больш нагадвае не палац, а зграбную прыветлівую цацачку. Горад не змог паўнацэнна прыстасаваць гэты архітэктурны твор да сваіх сучасных патрэб. У будынку зараз знаходзяцца і жыллёвыя памяшканні, і дзіцячы сад, адсюль толькі-толькі «выселілі» гарадскі Дом піянераў.

На ўскраіне горада цікавыя могілкі. Праз дарогу, насупраць адна адной, мірна ўжываюцца магілы праваслаўных і католікаў. На праваслаўных могілках стаіць невялікая драўляная Спаса-Прэабражэнская царка. Каталіцкія могілкі больш старыя і цікавыя. Многія помнікі зроблены ў выглядзе домікаў са стылізаванымі стрэхамі, альбо проста гэты домік пастаўлены на мураваны пастамент. А крыжы... Чаканныя і літыя з чыгуна, з непаўторнымі ўзорамі, кожны з іх мае свой вобраз. І сярод гэтых крыжоў стаіць невялічкая капліца, простая і прыгожая.

□

Вось і скончылася наша невялікае, але цікавае падарожжа. Мы развітваемся з Пружанамі і едзем дадому, у Мінск.

Цяпер, калі прайшоў нейкі час, першыя ўражанні змяніліся роздумам і аналізам. Яшчэ і яшчэ раз гартаем свае запісы, разглядаем фотаздымкі.

Мэтай нашага падарожжа было грунтоўнае вывучэнне помнікаў дойлідства, удакладненне іх ролі ў сучаснай забудове гарадоў і вёсак. Глядзелі мы таксама, як прыстасоўваюцца старыя пабудовы да сучасных патрэб, якія з іх варта вывучыць больш дакладна, уключыць у «Звод помнікаў гісторыі і культуры Беларускай ССР».

І шмат разоў мы пераконваліся, што старыя будынкі выкарыстоўваюцца не так, як належыць. Пакуль што мала звяртаецца ўвагі на тыя горадабудаўнічыя функцыі, якія нясуць на сабе гэтыя і іншыя пабудовы мінулага. Таму і атрымліваецца, што гістарычныя цэнтры гарадоў, няўдала забудаваныя ў наш час, трацяць свой былы сілуэт і горадабудаўнічы сэнс.

Часта можна чуць папрокі, што быццам старыя пабудовы перашкаджаюць будаўнікам, звязваюць іх магчымасці ў стварэнні сучасных гарадскіх ансамбляў. Але ж, калі добра разабрацца ў гэтым пытанні, то такія будынкі перашкаджаюць толькі таму, што іх не бяруць пад увагу, не бяруць у разлік.

Зноў і зноў хочацца паўтараць і пісаць: помнікі дойлідства — гэта наша гісторыя і наша сучаснасць. Максім Горкі некалі сказаў, што, не ведаючы мінулага, нельга зразумець сэнс сучаснага, мэты і задачы будучыні. З якой жа павагай трэба ставіцца ўсім нам да старога мастацтва, каб не заслужыць папрок будучых пакаленняў! А гэтага можна пазбегнуць, калі мы не будзем забываць пра тое, што культурны ўзровень народа вызначаецца ўсім аб'ёмам гісторыка-культурнай спадчыны.

Усім!



Такіх гандлёвых радоў, як у Пружанах, захавалася ў Беларусі мала. XIX стагоддзе.

*ГОСЦІ МІНСКА*

# ПРЫЕМНАЕ ЗНАЁМСТВА

Калі на афішах з'явілася імя Рубена Лісіцыяна, толькі меламаны ведалі, што гэта за спявак. Цяпер мінчане маюць аб ім сваю думку — малады і вельмі абаяльны, ён з першага выхаду на эстраду прыцягвае ўвагу засяроджанасцю і артыстычнай манерай трымацца. І першы ж канцэртны нумар з шуманаўскага цыкла «Каханне паэта» засведчыў, што Рубен дастойна працягвае славу свайго бацькі, вядомага спевака, народнага артыста СССР Пятра Лісіцыяна.

Заўважу, што за выкананне гэтага цыкла яму была прысуджана першая прэмія на Міжнародным конкурсе імя Шумана ў Цвікау. Твор гэты складаны: усе шаснаццаць песень патрабуюць выканання «на адным дыханні», як споведзь чалавека ў момант душэўнага ўздыму і прасвятлення. Артыст перадольвае цяжкасці з абсалютнай вакальнай свабодай, якой могуць пазайздросціць самыя вопытныя вакалісты. Ён, напрыклад, прыгожа вылучае заканчэнні музычных фраз цэзурамі і акцэнтуе істотныя выказванні, перадае то адкрыты тэмперамент, то прыхаваны ў душы героя боль. Празрыстае гучанне яго голасу можна параўнаць з чысцінёй горных крыніц радзімы спевака — Арменіі. Можа, таму мы адчулі ў славутым рамансе «Я не злуюся...», які часта выконваецца нейк бязвольна, эмацыянальную напружанасць і драматызм пачуцця, якім ахоплены герой; і тут артыст не пабаяўся глыбей «прачытаць» музыку, а не тое, што ляжыць на паверхні тэксту.

Аматары і прыхільнікі гэтага шуманаўскага твора адкрылі для сябе ў выкананні Р. Лісіцыяна і нешта новае, пэўныя нюансы і штрыхі, якія належаць яму, спеваку, здольнаму самастойна трактаваць даўно вядомую музыку. І калі гаварыць пра недахопы, то можна толькі пашкадаваць, што пafмефістофельску вострая песня «Яе ён горача кахае» трохі траціць у выкананні Р. Лісіцыяна горкую іранічнасць і «выпадае» з агульнага настрою другой часткі цыкла. Відаць, артыст яшчэ шукае для яе эмацыянальныя адценні...

Другое аддзяленне складалася з твораў Гайдна, Шуберта, Шумана, Брамса, уключана ў праграму і рэдка выконваемая п'еса Г. Вольфа «Вогненны коннік», якая пакінула яркае ўражанне дзякуючы надзвычай палымянаму тэмпераменту спевака, захопленага духам і зместам музыкі. Вядомая балада Шуберта «Лясны цар», здаецца, «заспяваны» на канцэртнай эстрадзе твор, але і ён у Р. Лісіцыяна набывае арыгінальнае гучанне — гэта сцэна, прасякнутая напружанай барацьбой, пакутамі і спадзяваннямі.

На нашу думку, не зусім ярка прагучала ў «нямецкай» праграме вечара руская рамансавая літаратура. Спявак часам карыстаўся празмерна хуткім тэмпам, звяртаўся да знешніх эфектаў. Шчаслівым выключэннем быў раманс Шапорына на вершы Блока, дзе артыст зноў стаў паэтычным і глыбокім у раскрыцці чыстага пачуцця кахання.

Прыемна адзначыць, што ў артыста вельмі чулы канцэртмайстар А. Багданава.

Спадзяёмся, што цікавы і яркі вакаліст яшчэ не раз пабывае ў нашым горадзе і парадуе новымі праграмамі.

Н. БАРЫСАВА-РАДОЎСКАЯ.

# КАЛІ РАДЗІМА ПАКЛІЧА

Нядаўна група беларускіх літаратараў удзельнічала ў рэспубліканскім вучэбным семінары па грамадзянскай абароне. Пісьменнікі праслухалі цыкл лекцый і дакладаў аб абароне насельніцтва і народнай гаспадаркі ад масавага паражэння, паглядзелі некалькі спецыяльных фільмаў.

У семінары, арганізаваным праўленнем Саюза пісьменнікаў БССР і штабам грамадзянскай абароны рэспублікі, прынялі ўдзел П. Пестрак, М. Аляксееў, М. Кругавых, В. Зуёнак, І. Клаз і іншыя літаратары.

М. ДУБРАВІН.



# Мары фон Эбнер-Эшэнбах

# СІРОЧАЯ ДАПАМОГА

## НАВЕЛА

**Мары фон Эбнер-Эшэнбах (1830—1916) — аўстрыйская пісьменніца, аўтар некалькіх раманаў і зборнікаў апавяданняў. Крытычна паказваючы аўстрыйскую арыстакратыю і буржуазію, яна з вялікай спагадай малюе жыццё сялянства, барацьбу славянскіх народаў за нацыянальную незалежнасць. Добрае веданне народнага побыту, мяккі гумар, майстэрства навеліста — адметная рыса яе твораў. Навела, якую мы прапануем увазе нашых чытачоў, узята са зборніка апавяданняў Мары фон Эбнер-Эшэнбах «Апавяданні замка і вёскі».**

Цыганы атабарыліся адразу за сялом. Жанчыны і дзеці жабравалі, мужчыны лудзілі посуд, зараблялі розным кавальскім промыслам. Таму ніхто пакуль што і не чапаў іх.

Не прайшло аднак і колькі часу, як аднойчы летняй раніцай табар нечакана знік. Цыганы пацягнуліся далей, запрогшы лядашчымі шкапамі вазы з падранымі парусінавымі будамі. Пра іх паспешлівыя зборы і ад'езд ніхто нічога не чуў, не ведаў — усё адбылося ўначы без лішняга вэрхалу.

Сяляпкі кінуліся пералічваць курэй, гаспадары аглядалі хлявы і стайні. Кожнаму здавалася, што вандроўнікі нешта ўкралі з яго дабра і пасля ўцяклі... Але неўзабаве выявілася, што цыганы не толькі нічога не ўкралі, але нават сёе-тое пакінулі: у густой траве каля царкоўнага мура ляжала голенькае светлавалосае хлапчанё, не больш двух гадоў ад роду. Удава Вагнер, якая, ідучы на свае грады па рэпу, першая падыбала на падкідыша, адразу скапавала — гэта ж дзіця, якое цыганы недзе былі ўкралі, а цяпер вось узялі і выкінулі, бо яно кволае і слабое — якая з яго ім карысць.

Яна падняла дзіцяпё з зямлі, прыглядзелася да яго і пачала шукаць меціну, па якой бацькі, калі падаць тую меціну ў газету, маглі б апазнаць яго. Але ніякай меціны на цыганскім падкідышы не было, і колькі пазней яна ні «падавала», так ніхто і не азваўся.

Старая Вагнерыха ўзяла дзіця да сябе з цiхай надзеяй, што прыедуць-такі некалі яго бацькі ў залатой карэце, забяруць малое і аддзячаць ёй стакроць за ўсё, што яна зрабіла. Але прайшло некалькі гадоў, і старая памерла, так і не атрымаўшы спадзяванай падзякі, і цяпер ніхто ўжо не ведаў, што рабіць з яе спадчынай — найдзічам. Прыюта ў сяле не было, не было ў сяле і ласкі людское. Калі ў каго раптам і зашчымела сэрца з-за гэтага маленькага галадранца, дык хіба толькі ад жаласці, бо ў вёсцы нават не ведалі, ці ахрышчаны ён.

— Хрысціянскага імя яму, каб хацеў — не дасі, бо ніхто ж не скажа, якога яно роду, — сказаў плябан; але на запытанне Вагнерыхі «Што ж рабіць?..» адказу не знайшоў.

— Дайце яму што-небудзь провізорыш... ну, як вам сказаць, што часовае, — уставіў свае пяць грошаў мясцовы кніжнік-пастаўнік, і глухаватая старая, разабраўшы толькі два першыя склады мудронага слова, назвала хлопчыка Провi і дала яму прозвішча Кірхгоф — цвінтар, па месцы, дзе знайшла. Пасля яе смерці ўсе сышліся і пагадзіліся, што Провi Кірхгофу не ўзычыш нічога лепшага, як толькі хутчэйшай смерці, каб не пакутваў бедны. Няшчаснае хлапчанё жыло толькі з аб'едкаў, апраналася ў рыззё, — зноскі вясковай дзятвы, хадзіла босае і без шапкі; яго білі, ганілі, ненавідзелі, ім пагарджалі — дзіця пагарджала і ненавідзела са шчырай узаемнасцю. Калі надышла пара ісці ў школу, там хлопчык да двух прыгожых імёнаў, якія ўжо меў, атрымаў яшчэ і трэцяе — «пацяробак», і рабіў усё, што мог сваімі кволымі сіламі, каб апраўдаць яго.

А была ў тым сяле адна гаспадыня, Шоберыха, пані карчмарка. Летась у закуцці яе хлява Провi вылежаў страшную хваробу без доктара і без дагляду. Толькі пані Шоберыха заходзіла штодня паглядзець, ці не настаў яшчэ той канец, ці не адмэнчылася ўжо, — і кожнае раніцы ставіла яму поўны кубак малака. Як ужо завялося, яна давала сняданак і пасля таго, як дзіця ачуняла. Роўна ў пяць гадзін хлопчык пераступаў парог гаспадарскай хаты і патрабаваў:

— Маё малако!

Але аднаго разу здарылася нешта зусім неспадзяванае. Гаспадар, які заўсёды ледзь не да палудня качаўся ў ложку, выдыхаючы ўчарашні хмель, паспеў выспацца ноччу на ўслоне і прачнуўся якраз, калі Провi зайшоў у хату па «сваё» малако.

Шобер, убачыўшы таго, атарапеў:

— Гэта яшчэ што такое? Чаго табе трэба? — ён пацягнуўся, пазяхнуў і ўстаў са сваёй мулкай пасцелі, пасля якой усе косці балелі і настрой быў сабачы. Можа якраз таму Провi і не пашанцавала.

— Дай яму малака! Ах ты здыхляк! А прасіць хто будзе? Не ўмееш? Не вучаны?

Хлопчык зжахнуўся, яго вузкі тварык яшчэ больш выцягнуўся, вялікі бледны рот скрывіўся:

— Ну!

— Што «ну»? — Шобер падскочыў да хлопчыка і так пачаставаў яго, даў такога малака, што той вылецеў за дзверы. Але такія дробязныя інцыдэнты не рабілі на Провi аніякага ўражання. Як і кожны дзень да таго, ён штораніцы прыходзіў да Шобераў і прывычна патрабаваў «сваё» малако. Гаспадыня не адмаўляла, але заўсёды прыгаворвала:

— А ты, дзіцятка, прасі. Кожны раз прасі. Ты ўжо такі вялікі. Табе напэўна — э-э, ды хто яго там добра ведае — табе, напэўна, ужо з чатырнаццаць. Дык вось запомні сабе з заўтрага: не папросіш, не мецьмеш.

Провi прыкмеціў: гаспадыня хвалявалася, відаць, шкадавала яго, — і гэта стала нейкай асалодай і ўцехай яго жабрачай гордай зацятасці. Яму, беднаму сіраце, была дадзена ўлада назаляць самай багатай пані ў сяле і псаваць ёй настрой. Яна скрушліва глядзела яму ўслед, калі ён, не павітаўшыся, праходзіў міма дзвярэй яе дома на работу ў каменаломню.

Там ён падзённічаў у чалавека, што пракладаў дарогу і ўзяў яго на свой кошт: даваў сякі-такі харч і дах над галавою ў хлеўшку. Гэты чалавек не баяўся, што Провi завядзе кампанію з яго дзецьмі. Яны не маглі пераняць ад зацкаванага небаракі нічога благога, бо і так усё, што трэба і не трэба, ведалі, а жывёл мучылі, як тыя разнікі. Усе козы, трусы, куры і дваровы сабака — няшчасная сука-шпіц — лепшыя таму сведкі, за гэта гаварылі іх шнары, пакалечаныя ногі, паламаныя крылы. Меў сваю долю забавы і Провi, калі цэлымі днямі цешыўся іх катаваннямі. Зловіць, бывае, курыцу і нясе малым «пабавіцца», і ахвяра магла палічыць за вялікае шчасце, калі яе жыццё на тым і не канчалася.

Але самай няшчаснай жывёлай дарожніка была старая сука. Яна бегала толькі на трох лапах, глядзела на свет адным вокам. Праўда, яна мала зважала на гэтыя дэфекты, высока трымала дзёрзкі, нахабны пысак і шалёна абрэхвала кожнага чужога сабаку, калі той надараўся паблізу: яна заўсёды патрапляла цапнуць яго. Сыноў дарожніка, аднак, баялася, ненавідзела і самога, бо той заўсёды забіраў яе маленькіх шчанят, да апошняга, і шпурляў у сажалку.

У час, калі Провi калоў у дарожніка каменне і прасейваў пясок, сука, хаця ўжо ў добрым сабачым веку, але прывяла яшчэ адзін выпладак, чатырох, з якіх тром загадзя была ўгатавана вада. Сука ледзьве магла пакарміць аднаго, яна была старая і слабая, і ўсё ўжо хілілася на тое, што пядоўга ёй, суччы, жыць.

Тапіць шчанят бацька ў той дзень даверыў свайму старэйшаму, Антону, але яму на гэты раз не было асаблівай уцехі ад пакут другога стварэння. Сука, ашчаніўшыся, шчэрылася, ляскала ікламі, як воўк.

— Бацька баіцца, — сказаў Антон, — таму, бач, пасылае мяне. Хадзем разам, патрымаеш яе, заразу, а я забяру пісклечу.

Сука ляжала ў драўлянай загародцы, побач з казіным стойлам на бярэмку саломы; вакол яе тыцкалася і пішчала яшчэ сляпая малеча.

Сука падняла галаву, калі хлопцы падышлі да яе, гыркнула і варожа ашчэрыла зубы.

— Моўч, дурная! — крыкнуў Антон і працягнуў руку па першага шчанюка. — Трымай! Трымай яе, бо цапне!

«А няхай бы ўжо, а не пашкодзіла б», — падумаў сабе Провi. Яму і ў галаву не прыйшло лезці біцца з сабакам з-за нейкага там Антона, ён толькі турбаваўся за сябе, і таму падаўся на ваенныя хітрыкі — прысеў на кукішкі і завёў жаласным галаском:

— Ну ціха, дурненькая. Мы ж табе нічога... анічагусенькі... мы толькі возьмем тваіх шчанятак, ну але, ну але!

Шпіцка вагалася, трошкі яшчэ пабурчала, але хутчэй дабрадушна, чым злосна. Слоў, якія гаварыў ёй Провi, яна не разумела, але іх пяшчота супакоіла яе, яна і паверыла — што магла ведаць сука пра хітрыну і ліслівасць людскую? Гаварыў да яе чалавек ласкава, як жа было не даць веры. Яна зноў уклалася, далася пагладзіць, заплюшчыла ўцалелае вока, як бы на салодкі сон, а Провi далікатна ўшчуваў яе. Сука ўткнула пысак у голыя далоні Провi і лізала іх удзячна і пяшчотна.

— Ну, ну ж бо! — крыкнуў той таварышу. — Хапай! Ды хутчэй!

Антон зграб і праз хвіліну выскачыў з загародкі з трыма шчанюкамі ў руках і пёр, радасна падбрыкваючы, цераз вуліцу да сажалкі. Провi сігануў за ім; яму хацелася паглядзець, як будуць тануць сабачаняты.

Было неяк дзіўна, што з гэтага дня суседства сукі не надакучала Провi. Яму нават было прыемна, што нешта жывое трэцца каля яго. Толькі кепска прыбітыя дошкі аддзялялі іх поччу. Сука скуголіла сумна. Мусіць, яна не ачомалася яшчэ, інакш бы неўзабаве зразумела: дзяцей няма і ніколі не будзе, і пара, нарэшце, перастаць іх шукаць. Але на гэты раз яна не супакойвалася, кожны дзень абшуквала ўсе закуткі, прынюхвалася, драпалася ў дзверы, разграбала салому і зноў зграбала, падлазіла пад дошкі, заціскалася ў куткі, дзе стаялі розныя гаспадарчыя прычындалы, некалькі разоў абярнула рыдлёўку і з жахам адскоквала. Некаторы час пасля гэтага было ціха, потым яна зноў совалася ўсюды і шукала, і шукала! Провi не мог заснуць. А раней жа яго не мог разбудзіць нават статак жывёлы, калі з рыкам праходзіў каля хлява: сплючы, Провi забываўся на голад і стому;— а тут спалохана прахапіўся, пачуўшы мітусню старой сукі.

Халодны пот выступіў на лобе, хаця ў «бараку», дах якога цэлы дзень высмальвала сонца, было так горача, што, мусіць, гарачэй не бывае і ў пекле... Ці нармальна гэта, ці не крылася тут што таемнае? Вядома, Антон кажа, нічога таемнага не бывае. Але ж Антон не самы дасведчаны на зямлі, ён проста доўбня; але што гаварыць так пра яго нельга, інакш будзе страшная лупцоўка і ад яго і ад бацькі, Провi ведаў са свайго вопыту.

Ён прыбіўся да дарожнікаў, якія мучылі яго голадам і білі. «Раз'еўся на дарэмшчыне!» гаварылі яму, калі ён хоць трохі не слухаўся, і гаспадар адбіраў з яго мізэрнага рацыёну палавіну.

Кожны другі даўно плюнуў бы, гаварыў сабе Провi, але ён не хацеў пляваць, яму яшчэ патрэбен быў час, каб адплаціць людзям злом за ўсё тое зло, якое тыя яму прычынілі. Што былі і такія, якія рабілі дабро, даўно забыта, а што да Шоберыхі, «той старой ведзьмы», дык на яе ён тачыў самы вялікі зуб. Чаму яна не давала больш, яна, у якой так многа грошай, так многа ўсякага дабра, такая багатая гаспода? Яна напэўна не ведала, куды ўшчаміць сваё багацце, і нічога не давала за так, хацела, каб яе малілі і прасілі за нейкае каліва малака. Як яна глядзела на яго, калі ён праходзіў міма!.. Здаецца, так і стогне — папрасі! папрасі!.. Во жаба! А не дачэкаешся!..

Аднаго разу загаварыла:

— Бачыш! Ад ветру хілішся, а ўсё сваё права правіш! Яшчэ не навучыўся прасіць?

Ён кінуў ёй дзёрзкае, грубае слова і пайшоў далей.

Мінуў тыдзень. Сука ўсё яшчэ не супакоілася, шукала і нюхала, асабліва ноччу, у сваёй загародцы. Так сталася, што яна разбудзіла Провi ў той час, калі яму снілася нешта вельмі прыемнае. Ён так позна ўлёгся на свой ляжак са стружак і бруднага сена, бо пасля работы ганяў у суседняе сяло коз. Гаспадар прадаў іх чалавеку з таго сяла. І вось цяпер няма ратунку ад праклятай калатэчы, нават гадзіну-другую няма як спакойна паспаць. Сука ж усё шнырала і шукала, і шукала, а Провi гразіўся ёй і лупіў нагамі ў дашчаную перагародку. Перагародка паддавалася, то адна, то другая дошка з трэскам адвальвалася і падала на палавіну шпіцкі. Сука спалохана ўзбрэхвала, шчанё пішчала, і ўсё зноў заціхала.

— Сатана табе ў рэбры, ці суймешся ты, выжліна, урэшце! — мармытаў Провi і зноў укладваўся, падабраўшы калені пад бараду, бо так спалася ямчэй. Але якраз сёння сон не браў, хоць і ціха было, хоць і змарыўся. Напаўзалі розныя думкі, зусім новыя думкі, якія ніколі яшчэ не прыходзілі на памяць. Так, шпіцка была выжліна з усім яе шныраннем, — але от каб гэта яго маці ды была такою, як гэтая сука, каб шукала так нястомна, яна б, напэўна, знайшла б, — пра яго ж і ў газету падавалі, яго ж і ў акруговай управе занісалі! Зрэшты, ніхто і не патрабуе, каб яна знайшла Провi, але хай бы сабе хоць шукала. Цыганы бо і не кралі яго, а маці — «нябожанька» — мусіць, проста падаравала яго ім, пэўна, яшчэ і грашыма даплаціла, каб узялі... ну але ж, даплаціла! Мусіць, ёй зараз і самой сорамна, мусіць, яна з багатых, дачка баўэра, або гаспадара... От халера! Каб гэта яна і праўда ды была гаспадаровай і каб узяла яго назад... Штонядзелі б ён піў гарэлку, а ў панядзелак пахмяляўся, курыў бы ў доме і на кегельбане, раздаваў бы зубатычыны. Провi маляваў сабе райскае жыццё, калі... праклятая выжліна! — сука зноў пачала стагнаць і скрэбсці і вывела яго са свету такіх прыгожых летуценняў.

Ён злосна падняўся, узяў нейкую штакеціну, пералез цераз кучу дошак у загародку да сабакі і пачаў з ляскатам лупіць па зямлі, на якой у цемры спалохана ўтулілася сука. Ён не бачыў, куды пападаў, ён толькі соўгаў налева, направа, наперад, назад, і нарэшце-такі зарваў, бо нешта мяккае, жывое падвярнулася пад яго шалёны ўдар. Кароткі жаласны, умольны енк... Ну але ж — цяпер выжліне хопіць, цяпер супакоіцца хоць на нейкі там час, прынамсі.

Ён вярнуўся на сваё месца, зграбнуўся і адразу заснуў.

Праз некалькі гадзін раптам прачнуўся. Сонца ярка свяціла ў твар праз шчыліну ў дзвярах загародкі і праз дзірку ў сцяне. Ён разамкнуў павекі і ўстаў. Адразу і неяк несамавіта прыгадалася сука. Калі ён толькі забіў яе ноччу, дарожнік, які не трываў ніякага замаху на сваё дабро, разлуецца люта і затаўчэ да паўсмерці. Ну але ж! — падумаў ён і запусціў усе дзесяць пальцаў ў засмечаныя пацярухай валасы.

І тут нешта заварушылася паміж дошкамі, нешта паўзло. Паўзла сука, цягнучы ў зубах шчанюка. Яна трымала малое за скуру на карку, апэцкала яго сваёй крывёю, што цурком цякла з зяпы на грудзі. Яна прывалакла сваё дзіцяня да Провi, паклала яго перад ім, падштурхнула пыскам да босых ног.

І вочы яе з трывогай упіліся ў хлопчыка. Было ў іх столькі бязмежнага даверу, умольнай просьбы, што ў Прові зашчымела сэрца. Як сонечнае святло пранікае праз закрытыя павекі, так гэтыя вочы пранiклі пад панцыр, які дагэтуль хаваў усякае добрае парыванне душы малога.

— Але, але! — сарвалася з яго вуснаў. Ён зразумеў, адказаў ёй і ўбачыў, як яна раптам тыцнулася носам у салому, выцягнулася, яна, якую ён забіў і якая усё ж прыйшла, каб, паміраючы, даверыць яму сваё дзіця.

Прові калаціла. Чужая неадольная сіла захапіла яго, закруціла, як бура. Яна кінула на зямлю, прымусіла прытуліцца тварам да твару мёртвага сабакі, цалаваць яго і лашчыць. Гэта яна, сіла, крычала з яго:

— Але ж ты! Але ж ты — ты была мама!

Прыліў дзікага жалю, нічымлівай пакуты віраваў у ім і патрос усяго да апошняй крывінкі. Збалелае ад спагады дзіця, усхліпваючы, качалася па зямлі і плакала па старой сучцы, і плакала па яе маленькім, якое гарнулася да сваёй маці, шукала малака ў крыніцы, якая і раней выдавала яго так ашчадна мала, а цяпер і зусім высахла.

— Усё, няма, табе нічога няма, — сказаў Прові, узяў шчанюка на рукі, прытуліў да шчакі і дыхаў на яго; тое дрыжала і жаласна яўкала.

— Ты галодненькае, галодненькае, ну але, але!

Што рабіць з давераным скарбам? Праклянце! — каб то былі тут козы! Ён бы выдаіў адну, не баючыся страшнай гаспадаровай кары. Але коз ужо няма, а пакуль хто з дома дарожніка расшчодрыцца хоць на кроплю, доўга чакаць. «К чортавай матары, у ваду!» — скажуць, як толькі начуюць, што сука мёртвая.

— У ваду пойдзеш, — сказаў ён сабачку, які, мусіць, пераняў нешта з матчынага даверу да яго; малое прынікла да шыі, смактала вуха і, стогнучы і скуголячы, скардзілася на голад.

— Але, але!

Ён ужо ведаў, што будзе, не ведаў толькі, як дапамагчы. Што яму дасі? Каб тое, што перападае самому, дык малому не пойдзе. Можа яна што дасць, тая ведзьма? Не, не. Лепш памерці з голаду, чым прасіць. Але ж памерці з голаду — гэта зусім не тое самае, што замарыць голадам.

Сабачаня тым часам ужо перастала смактаць вуха — які там з яго наедак!.. З ціхім адчаем закрыліся яго ледзь прарэзаныя вачаняты. Прові адчуў, як яно дробна дрыжала.

Пакутліва і баязліва паглядзеў на мёртвую суку. Так, каб дзіця жыло, у яго нельга забіваць маці.

— Ну, дык ідзі! — выціснуў раптам з сябе і кінуўся з хлеўчука ў загародку, а адтуль у вёску, сцяўшы зубы. Ён не азіраўся па баках, ішоў і ішоў.

Яшчэ ціха было ў палях, толькі паблізу дамоў пачалося ажыўленне. Цераз дарогу да калодзежа ішоў засланы хлопец, чаляднік пекара, ды парабак багатага баўэра запрагаў у калёсы гнядую кабылу. З брамы карчмы выйшла старая служанка, даўні вораг Прові. Яна недаверліва сачыла за хлопчыкам, а калі ён падышоў, падняла кулак і сказала, каб ішоў прэч. Але таму гэта не грозьба, ён прайшоў міма яе, як чалавек, што хоча прабіць галавой мур. Змрочна і рашуча, унурыўшыся, ён рушыў у адчыненыя дзверы кухні. Гаспадыня, якая стаяла ля прыпечка, павярнулася... Хлопчык быў як сам не свой: галасам, які, здавалася, болем раздзіраў яму грудзі, Прові выціснуў з сябе:

— Гаспадыня, пані гаспадыня, я прашу ў вас малака!

Гэта быў паварот у сэрцы чалавека, у лёсе чалавека.

*Пераклаў з нямецкай* **Васіль СЕМУХА.**

*Мал.* **В. Тарасава.**

*25 МАЯ — ДЗЕНЬ ВЫЗВАЛЕННЯ АФРЫКІ*

Э. ЯЛУГІН

# ПРОСТЫ ПРАМАВУГОЛЬНІК КАРДОНУ...

МАЛЕНЬКІ прамавугольнік кардону са словамі на арабскай і французскай мовах здаўся мне незвычайна цяжкім. Быццам гэта была пласцінка з сіняватага металу.

Спачатку прамавугольнік ляжаў у папцы з матэрыяламі для нарысаў і рэпартажаў, потым я пераклаў яго ў другую, на якой не ведаю ўжо і калі накрэмзаў супакойваючае — «Рознае». І нарэшце кардон трапіў у скрыначку, дзе ляжалі ўсялякія дробныя рэліквіі.

— З гадамі аблічча наша зменіцца, сустрэўшыся, мы, можа здарыцца, адразу і не пазнаем адзін аднаго. Але калі я ўбачу такі вось прамавугольнік, то змагу назваць вас кожнага па імені, хаця б вы сталі барадатыя і лысыя, як марабуты.

Гэта сказаў Буджама, алжырац. А Мустафа згодна кіўнуў. І ўсе мы згодна кіўнулі.

А два дні перад тым мы ляжалі на брызентавых высокіх ложках у паўзмрочным былым ваенным складзе французскай каланіяльнай арміі. Мустафа задуменна пазіраў праз адчыненыя дзверы на асляпляльны ад сонца пляц, дзе яшчэ ляжалі страляныя аўтаматныя гільзы. Побач ляжаў Мухамед — хлопец гадоў пятнаццаці, які збіраўся стаць мараком, а пакуль што насіў паласаты матроскі цельнік.

— Колькі крыві ў чалавека? — Мухамед зірнуў на Мустафу.

Мустафа паварушыўся, і брызентавы стол пад ім рыпнуў. Мустафа паківаў галавой, ён не ведаў.

— Усё роўна, — сказаў ён. — Гэта не мае значэння.

Адказаў Ольф Вальгрэн. Гэты швед са Стакгольма ведаў многае.

Вочы клеіць дрымота. У галаве гудзе ад учарашняй паездкі ў пустыню Сахару. Вось гэта патэльня! Цяпер бы ў самы раз мокнуць у гаючым расоле Міжземнага мора. Ляжаць бы сабе на спіне ды пазіраць у блакітную бездань алжырскага неба!

Мы ляжым і моўчкі паглядаем, як цячэ кроў. Пад сталом у кожнага з нас падвешана бутэлечка. Кроў б'е туды цёмным трывожным цурком. Колькі ў чалавека крыві? Ольф сказаў — у сярэднім пяць літраў. А калі гэта перавесці на кубікі? У бутэлечцы трыста кубікаў. Гэта многа ці так сабе? Сібірачка Галя Бугрова, якая ў сябе дома была донарам, сказала, што ў іх крыві бяруць значна менш. Напэўна, моцна дзейнічае на мазгі сонца Сахары.

Дык колькі ж гэта — трыста кубікаў? Калі бачыш, як кроў цячэ не перастаючы, а тыя, хто адкрыў гэты цурок, нават не падыходзяць да сталоў, занятыя нечым сваім, становіцца крыху не па сабе — а раптам забудуць спыніць гэта? А на ложках ціха. Маўчаць і нешта думаюць пра сваё алжырац Мухамед, празваны Сіндбадам-мараходам, сібірачка Галя Бугрова, якая недзе ў таёжным сяле выкладае дзецям рускую мову, аграном з Украіны Уладзімір Раманенка, грузін Валеры Джалагонія, інжынер лесаапрацоўкі аднекуль з-пад Мурманска Станіслаў Курапаў, італьянскія студэнты Крысціна Тоне і Феранці Анзела, студэнт, карэнны ўраджэнец Каіра Мустафа.

Нас на ложках — дзесяць. Але не мы першыя і не мы апошнія. Зараз дванаццаць гадзін дня, а работнікі Алжырскай цэнтральнай станцыі пераліванння крыві працуюць тут з дзесяці раніцы.

У дзевяць гадзін Мухамед прывёз з горада ранішнія газеты, з якіх у лагеры даведаліся пра выбух. У порце Анаба дыверсанты ўзарвалі егіпецкае судна «Зорка Александрыі» з ваенным грузам. Выбухам была разбурана частка прычалу і рабочы раён ля порта. Многа людзей загінула, некалькі соцень паранены, многія — цяжка. Савецкія ўрачы, якія па запрашэнні алжырскага ўрада працавалі ў горадзе, усю ноч не адыходзілі ад хірургічных сталоў. У першую чаргу аперыравалі дзяцей.

Зірнуўшы на фотаздымкі, зробленыя на месцы дыверсіі, італьянка Альма, адна з добраахвотных медыцынскіх сясцёр міжнароднага турысцкага лагера моладзі ў Сідзі-Фіруш, якая да таго мужна перавязвала ўсе нашы драпіны і сінякі, закрыла твар рукамі. Між смуглявых тонкіх пальцаў дзяўчыны пацяклі слёзы. І тады ж я ўбачыў, як плача Мустафа.

— Імперыялісты! — крыкнуў ён, і ў вялікіх чорных вачах яго ўскіпелі і зараз жа зніклі дзве празрыстыя кроплі.

І алжырац Буджама Увабадзі, які ўсяго паўтара гады таму змагаўся ў партызанах супраць легіянераў, вельмі яшчэ малады, але зусім сівы, перадаў некаму з хлопцаў газету і стаў побач з Мустафою. Спахмурнелы і зацяты ад унутранага болю твар Буджамы вельмі нагадваў слаўнага яго продка Абд-аль-Кадзіра на адной са старых літаграфій.

— Усё роўна яны не пройдуць, — сказаў Буджама, гледзячы некуды паверх нашых галоў, туды, дзе за старымі лініямі лагодна плёскалася Міжземнае мора.

І Мустафа кіўнуў і моцна праз сцятыя зубы выдыхнуў з шырокіх грудзей паветра.

Ён наогул мала гаварыў, гэты Мустафа, але калі праз гадзіну высветлілася, што ў шпіталі, дзе аперыравалі пацярпеўшых ад дыверсіі, скончылася кроў для пераліванння і яе няма на Цэнтральнай станцыі, Мустафа адным з першых прапанаваў сябе донарам.

Гэта была самая цікавая чарга ў свеце, якую мне ўдалося пабачыць. Спачатку я пра гэта не думаў, пакуль не заўважыў здзіўленых твараў хлопцаў з Цэнтральнай станцыі пераліванння крыві. Я прасачыў іх позіркі і тут убачыў усю нашу стракатую і чезвычайна прыцішаную калону. У чарзе, што цягнулася да прыземістага паўзмрочнага памяшкання былога ваеннага склада, стаялі нашы, савецкія хлопцы, а побач алжырцы, італьянцы, цёмнаскурыя гвінейцы і суданцы ў паласатых бурнусах. Француженка Беці, смуглявая і тонкая тулузка, доўга горача запэўнівала алжырскага фельчара, што і яна можа даць кроў.

— Я разумею вас, разумею, — гаварыў фельчар крыху разгублена. — Але ваша здароўе...

— Яно ў мяне што трэба! — пакрыўдзілася тулузка. — Я павінна! Разумееце?

А пасля прапанавалі сваю кроў Клара Дупер, якая вывучала гісторыю ў Сарбоне, студэнты Жан Ламаошэ, Філіп Купель і другія члены Саюза маладых камуністаў Францыі, іспанцы і егіпцяне.

У той вечар многія ў Сідзі-Фіруш насілі на правай руцэ белую павязку з бінту. Такім стараліся саступіць лепшае месца ў маладзёжным кафэ, ім першым падавалі страву ў сталоўцы. Але тыя, хто быў з павязкай, не патрабавалі сабе ніякіх прывілеяў. Толькі адну ўзялі яны сабе — быць разам. Мустафа ўвайшоў у сталоўку, адшукаў Станіслава Курапава, і сеў побач з ім.

— Ты і я — адна кроў,— сказаў Мустафа.

А праз два дні з Алжырскай цэнтральнай станцыі пераліванння крыві прывезлі жэтоны, і многія ўпершыню даведаліся, якая ў іх група крыві. У Мустафы на кардонным прамавугольніку стаяла адзінка. Буджама зірнуў на яе і сказаў:

— Каралеўская кроў.

І сказаў тыя словы пра братэрства на ўсё жыццё. А Мустафа кіўнуў згодна.

У той вечар Мустафа спяваў. Лепшы гітарыст лагера рыжавалосы француз Фрэдзі не разумеў слоў песні, але добра схапіў мелодыю і акампаніраваў. Мустафа спяваў пра лодачнікаў Ніла. Прыціхлыя хлопцы дымілі цыгарэтамі, слухалі егіпцяніна і глядзелі туды, дзе ў чорным небе над морам раз-пораз праносіліся вогненныя сполахі. Магчыма, гэта былі проста водбліскі далёкага маяка, але тунісец успомніў пра атамны палігон у Сахары.

Мустафа скончыў песню, а Фрэдзі яшчэ некаторы час задумліва перабіраў струны гітары, імправізуючы нешта. Потым і ён закурыў, і агеньчык запалкі на момант выхапіў з паўзмроку яго меднавалосую прыгожую галаву.

— Мне сказалі, — прамовіў Фрэдзі, — што тым, каму перальюць кроў, паведамяць, у каго яна ўзята. Значыцца, чалавек будзе ведаць, што кроў даў француз.

Яму, відаць, чамусьці гэта было вельмі важна.

І зноў былі песні пад усплёскі марскіх хваляў і пад акорды гітары меднавалосага Фрэдзі. Прасілі яшчэ спяваць Мустафу.

А цяпер, праз некалькі гадоў, я дастаў гэты прамавугольнік кардону з лічбай пасярэдзіне і зноў успомніў, што было тады і здавалася вельмі звычайным. А яшчэ я ўбачыў залітую сонцам порт-саідскую вузкую шашу, абапал якой мірна дрэмлюць пад спёкай векавыя дрэвы, і пачуў выццё «фантомаў» і выбухі бомбаў. Я ўважліва прачытаў кожны радок змешчаных у газетах тэлеграм. У якія кароткія радкі можа, аказваецца, укласціся вялікая чалавечая трагедыя!

Аднаго я так і не даведаўся—хто былі тыя два студэнты-выпускнікі Каірскага інструментальнага інстытута, што ў ліку іншых загінулі ў Абу-Заабаль. Што для свету імя аднаго ці двух, калі загінулі дзесяткі. І калі потым быў Бахр эль-Бакр!

І ўсё ж прозвішчы, напэўна, патрэбны.

Мустафа быў студэнтам інструментальнага. А цяпер, напэўна, выпускніком. Тады ён толькі паступіў вучыцца і на ім быў яшчэ паласаты матроскі цельнік.

Я гляджу на маленькі прамавугольнік кардону з арабскімі літарамі. Такія ж жэтоны ёсць у хлопцаў з Францыі, Італіі, Швецыі, Гвінеі і Ганы. Ведаю, што берагуць прамавугольнік кардону тая задумлівая настаўніца з сібірскага сяла і вясёлы, падобны на таёжнага мядзведзя, лесавік з-пад Мурманска. Мустафа і хлопцы, што былі разам з ім, павезлі жэтоны ў Егіпет...

# ГАСПАДАРЫ ЗАЛЫ—ВУЧНІ

На чарговым пасяджэнні дзіцячай секцыі Саюза кампазітараў БССР выступалі вучні музычнай школы № 1 пры кансерваторыі і школы № 2 Заводскага раёна. Выконваліся творы кампазітараў-прафесіяналаў і музыка, якую стварылі ўдзельнікі канцэрта, якіх выхоўваюць кампазітары П. Падкавыраў, Б. Сурус і Р. Буцвілоўскі.

Першым нумарам была песня М. Шнейдэрмана «З днём нараджэння Леніна». Выкананне было бездакорнае. Хлопчыкі—дысканты і альты — так старанна спявалі, столькі было ў іх выкананні шчырасці і цеплыні, што ўражанне засталося незабыўнае.

Хораша праспяваў хор і песню Э. Тырманд «Месяц красавік» і яе жартоўную «Янэк», у якой надзвычай добра саліравалі Сярожа Някрасаў і Дзіма Ігрушаў.

І раптам фартэпіянны ўступ нібы намаляваў цёплы веснавы дожджык. Гэта загучала песня І. Лучанка «Майскі дождж». А яшчэ праз хвіліну на сцэну выйшла вучаніца 4-га класа Малашына Лена, маленькая дзяўчынка з белым бантам у валасах. Яна літаральна зачаравала ўсіх слухачоў упэўненым выкананнем даволі складанай музычнай п'есы М. Аладава «Мазурка».

Юная піяністка Лена Ракоўская добра сыграла п'есу Д. Камінскага «Сумныя разважанні», вучаніца 3-га класа Наташа Кітава выканала на домры «Польку» Я. Цікоцкага, а яго ж п'есу «Жартоўная» ігралі на двух фартэпіяна ў восем рук вучаніцы 4-га класа Лена Малашына, Света Захарава, Лена Ракоўская і Ала Бубенька.

Вучань 2-га класа табаіст Уладзімір Лашэўскі ўпэўнена выступіў з п'есай С. Картэса «Гульня». А потым зноў настала чарга піяністаў. Іх дуэт — вучаніцы 6-га класа Лена Кастко і Наташа Пукач — пераканаўча і добра ігралі п'есу Д. Камінскага «У цырку».

Слухачы цёпла віталі маленькіх музыкантаў — кларнетыста Пецю Адамовіча, Ігара Шыядзікава, трубача Віцю Алейнікава, цымбалістку Лілю Ткачову, піяністак Надзю Валчок і Веру Кемпель. Яны ігралі творы Я. Глебава, Я. Дзягцярыка, І. Кузняцова, радуючы аўдыторыю добрым адчуваннем асаблівасцей музыкі кожнага аўтара.

«Піраты са старой кніжкі», «Качаня Цім», «Злы чмель», «Тройка» —гэта толькі некалькі твораў Наташы Пукач. Разнастайныя густы і «кампазітарскія схільнасці» прадэманстравалі Ала Барзова, Ніна Кавецкая, Васіль Кандрацюк, Ларыса Мурашка і іншыя. Зразумела, яшчэ рана гаварыць пра іх творчасць як пра нешта самабытнае і прафесіянальнае, але імкненне памузычнаму асэнсаваць свет і з'явы прыроды скарыла слухачоў.

Закончыў канцэрт хор выхаванцаў надрыхтоўчай групы дашкольнікаў пры кансерваторыі. Хор пачаў працаваць толькі сёлета ў студзені, але мае ўжо свае «традыцыі». На канцэрце ён выканаў песню Светы Якорчанкі «Прыйдзі вясна» і песні Н. Загорскай «Мінчаты-дашкаляты», «Умелыя рукі» і «Мінскае мора».

Шкада толькі, што цікавы канцэрт-сустрэча прайшоў у даволі «камернай абстаноўцы», што ў зале было мала выкладчыкаў спеваў у сярэдніх школах і вучняў гэтых школ.

Д. ЖУРАЎЛЕЎ.

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ

**Бадай, цяжка знайсці на зямлі чалавека, які не любіў бы кіно. А ў тым, што такога чалавека немагчыма знайсці ў гэтыя дні ў сталіцы савецкага кіно Мінску (менавіта такім стаў ён на час фестывалю), ужо зусім няма як сумнявацца.**

**Фестываль, зразумела, справа сур'ёзная. Конкурсныя прагляды, дзелавыя сустрэчы, абмен думкамі—усё гэта будні фестывалю. А поруч з гэтым — усмешкі, жарты, незвычайныя, «як у кіно», выпадкі.**

**Вось чаму сёння «Вясёлая трасянка» вітае фестываль.**

## *ФЕСТЫВАЛЬНАЯ МАЗАІКА*

У часе адной з сустрэч гледачоў з аўтарамі сатырычнага кіначасопіса «Кнот» адзін малады чалавек спытаў Сяргея Міхалкова: «Што патрэбна для таго, каб напісаць сцэнарый камедыі і паставіць па ім фільм?» С. Міхалкоў усміхнуўся і сказаў: «Для таго, каб напісаць сцэнарый камедыі, патрэбны, прынамсі, здольнасці, але для таго, каб «прачытаць» яго, патрэбен талент».

□

На сустрэчы з гледачамі ў кінатэатры «Партызан» Міхаіл Жараў сказаў: «Нашы кінаінжынеры вынайшлі так званы эфект прысутнасці гледача на экране. Некаторыя творчыя работнікі стварылі другі эфект: эфект адсутнасці гледача ў кінатэатры. На жаль, гэты эфект не аптычны, а вельмі часта рэалістычны. З ім я сутыкаўся нават на камедыйных стужках...»

□

Дэлегацыя кінастудыі «Саюзмультфільм» знаёмілася з Мінскам. Каля вітрыны ГУМа, застаўленай цацкамі, госці заўважылі малога, які плакаў на ўсю вуліцу, тузаючы маці за спадніцу. Мастак - мультыплікатар Юрый Бутурын выцягнуў з кішэні блакнот і алоўак і пачаў хуценька маляваць нешта, а пасля адарваў лісток і падаў яго малому. З невялічкага лістка паперы пазіраў, як жывы, вясёлы таўстун Карлсан з прапелерам на спіне... Куды адразу зніклі ў малога слёзы!

□

Пісьменнік у ролі акцёра? Было ў часе фестывалю і такое. Менавіта ў ролі акцёра прымаў удзел у фестывалі вядомы малдаўскі пісьменнік Г. Дзімітрыу. Яго работа над вобразам доктара Крысці ў конкурсным фільме «Гэта імгненне» рэжысёра Э. Лацяну спадабалася гледачам, а журналісты назвалі Г. Дзімітрыу «адкрыццём фестывалю».

□

Павінен быў пачацца прагляд конкурснага фільма «Тры таполі на Плюшчысе». Ды ці то марудзілі нешта кінамеханікі, ці былі яшчэ нейкія прычыны, але пачатак зацягваўся. Гледачы пачалі хвалявацца. І тады з крэсла падняўся высокі шыракаплечы чалавек і, павольна агледзеўшы залу, сказаў: «Спакойна, без панікі! Бывала і горш!» Зала ўзарвалася апладысментамі. Гледачы віталі папулярнага савецкага кінакоміка Яўгена Маргунова.

□

У дні фестывалю Мінск наведаў... Фантамас! Яго аўтографы можна было заўважыць на сценах некаторых дамоў. Але тое, што не ўдалося зрабіць непараўнальнаму камісару паліцыі Жуву, зрабіў папулярны кінаакцёр Радзівон Нахапетаў. Непадалёк ад гасцініцы «Мінск» ён схапіў Фантамаса за шкірку. Фантамасам аказаўся мінскі школьнік.

— Навошта ты пэцкаеш сцены? — спытаў акцёр. — Хіба гэтаму цябе вучаць у школе?

«Фантамас» не разгубіўся. Ён зірнуў на значок з фестывальнай эмблемай і замест адказу таксама спытаў:

— А чаму на фестывалі так мала фільмаў для дзяцей?

□

Фестывальныя будні былі напружанымі не толькі для журы, удзельнікаў і журналістаў, але і для... газетных кіяскёраў. Кіяскёр кіёска № 167 па вуліцы Кнорына Л. Гусейнава гаворыць: «У час фестывалю мне даводзілася адказваць на сотні пытанняў: «У якім кінатэатры будзе сустрэча з Жаравым? Ці варта паглядзець пазаконкурсны фільм «Чайкоўскі»? Ці будзе надрукавана праграма канцэрта кіназорак?..» Дальбог, думала, што працую не ў газетным кіёску, а ў «Бюро даведак».

**Разам са сваім «хросным бацькам» мастаком-мультыплікатарам Юрыем БУТУРЫНЫМ (яго аўтапартрэт вы бачыце справа) чытачоў «Вясёлай трасянкі» вітаюць «Малыш і Карлсан, які жыве на даху».**

## КІНА-ВІНЕГРЭТ

Кіназорка часова не свяціла.

□

Кінааператар асвятляльніку, гледзячы ў акуляр апарата і паказваючы на сонца:

— Выключы той юпітэр!

□

Што такое фокус? Гэта калі пункт гледжання рэжысёра супадае з пунктам гледжання кінааператара. Удаецца вельмі рэдка.

□

Кінадакументалісты аб сваім памяшканні:

— Шызахроніка.

□

Кінарэжысёр аператару:
— Здымаем 15-ы дубль.
— Плёнка скончылася.
— Тады 16-ы.

Пра другую жаніцьбу рэжысёра:

— Першы дубль быў больш удалы.

□

Адміністратар групы кінадакументалістаў пасля перагавораў з кіраўніком прадпрыемства:

— Усё ў парадку. Здымаць не будзем.

□

Кінааператар пра нядбайнага асістэнта:

— Заўсёды ёсць, калі не трэба, і наадварот.

□

Чалавек, які ўпершыню трапіў на здымачную пляцоўку:

— А дзе ж кіно?

□

Рэжысёр свайму памочніку:
— Арганізуй дождж.

## КАМУ СВЯТА, КАМУ...

Мал. Ю. ГРЫГОР'ЕВА.

— Фестываль канчаецца, а я яшчэ не маю аўтографа Баталава!

— Або я, або кіно!..

Георгій ЮРЧАНКА

## НА ДРОВЫ

*Анатоль ВЯРЦІНСКІ,*

**Да сонца цягнучы галіны,**
**Расла разлатая яліна**
**З наростам-шышкай на камлі.**
**...І вось мы да яе прыйшлі.**
**Прыйшлі з нагостранай сякерай,**
**Прыйшлі з разведзенай пілой,**
**Прыйшлі гарачыя не ў меру,**
**Прыйшлі без літасці і веры,**
**Прыйшлі... — з якім прыйшлі намерам!**
**Прыйшлі!**
**А з мэтаю з якой!**
**Прыйшлі, — піла ў руках запела,**
**Яліна дробна задрыжэла**
**І — грымнула ўніз галавой.**
**А мы яе —**
**чацверталі.**
**Услед затым —**
**васьмеравалі,**
**Пасля —**
**фурманку падагналі*,**
**Кражы на воз ледзь-ледзь усклалі,**
**Ледзь падымаючы з зямлі...**
**О жах!**
**Дзе ж спаў наш дух здаровы,**
**Калі без лішняе размовы**
**На дровы!—**
**чуеце! —**
**На дро-о-о-вы!!! —**
**Яліну ў вёску мы вязлі...**

* Кабылу Машку гэтым часам
Прыгнаў Пятрусь Макаль
з Парнаса.

Павел ШЫБУТ

## ШРАЦІНКІ

*Хто сказаў, што кот з мышшу ворагі: жывуць жа пад адным дахам.*

□

*Афарызмы пісаць вельмі проста: трэба толькі мець кароткую памяць.*

□

*Ён столькі выношваў сваю думку, што яна аказалася зношанай.*

□

*Дай анёлу ўладу і ён зробіцца чортам.*

□

*Выдаючы сваю кнігу, сатырык ускладаў вялікія надзеі на мастака-карыкатурыста.*

□

*Гэта вялікі камбінатар Астап Бэндар уладкаваў Ільфа і Пятрова на Парнас.*

□

*Мільён людзей—мільён меркаванняў, мільён аслоў—адно меркаванне.*

□

*Яго вершы былі настолькі сучаснымі, што ён баяўся, каб яны не ўстарэлі пры перасылцы ў рэдакцыю.*

□

*Пішучы дрэнныя творы, таксама можна зрабіць добрую справу: выкарміць выдатных крытыкаў.*

□

*Сям'і ён аддаваў усё—апрача зарплаты.*

□

*Дай зайцу ільвіную пасаду і яго будуць баяцца ўсе звяры.*

□

*Тэрмометру было ні холадна, ні горача: ён стаяў на нулі.*


«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

Выходзіць па пятніцах

Друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856. АТ 20921

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25 25, адказнага сакратара—33-44 04. аддзела літаратуры—33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі—33-24 62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62 аддзела культуры—33-21-53, выдавецтва—32-22 19, бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісы не вяртаюцца.